НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 36 (729) 27 верасня 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Кіраўнік Бабруйска: «Мерсэдэс» я ўзяў у крэдыт

«Прадаў «Мазду-3» за 15 тысяч, дабавіў і купіў машыну за 46 тысяч». Старонка 2.



# Рэкордны бюджэт Дажынак

У Рэдакцыю «НН» трапіў каштарыс свята: 708 мільярдаў рублёў.

Няпэўны курс даляра не дазваляе пералічыць бюджэт свята ў валюту, таму, у адрозненне ад папярэдніх гадоў, будзем падаваць лічбы менавіта ў рублях. Да гонару арганізатараў адзначым, што каля паловы сродкаў было асвоена яшчэ да дэвальвацыі. У папярэднія гады фінансаванне расцягвалася да апошніх дзён.

Такім чынам, на што пойдуць больш за 700 мільярдаў? Самай дарагой цацкай «горада сонца», як часам называюць Маладзечна, стане спартыўна-забаўляльны комплекс. Згодна з зацверджанай праграмай, яго фінансаванне пацягнула на 145 мільярдаў рублёў.

**Працяг на старонцы 5.**




Тэндэнцыі

## Пуціным ізноў стаў Пуцін

Што гэта нясе для Беларусі?

З кім у расійскай гісторыі можна параўнаць Пуціна? Пасля 12 гадоў кіравання гэтага чалавека даць адказ на пытанне ўсё яшчэ няпроста. І не таму, што Пуцін такі наватар. Проста ствараецца ўражанне, што гэты чалавек яшчэ далёка не выканаў пастаўленую перад сабой «праграму».

Хто ён? Здаровы, малады Андропаў каля руля краіны? Пятро І, але (пакуль?) без вялікіх войнаў? Міхаіл Раманаў, які даў краіне парадак пасля Смуты? Або Мікалай І, «рыцар самадзяржаўя», чыё доўгае кіраванне пакіне краіну безнадзейна дэспатычнай і адсталай?

Няма другой такой вялікай краіны свету, дзе адна асоба мае шанцы заставацца на вяршыні ўлады дзесяцігоддзямі. Нават калі не браць дэмакратычныя дзяржавы Захаду, аналагаў няма і сярод новых эканамічных супердзяржаў.

**Працяг на старонцы 3.**

## «На бульбу» выгналі 11-гадовых

Шасцікласнікі ў калгасе імя Аляксандра Неўскага Бабруйскага раёна як сімвал беларускага эканамічнага «цуду». **Старонка 12.**







Не быць скотам

### 16-гадовага прэзідэнцкага лаўрэата выгналі з Ліцэя БНТУ за ўдзел у дэманстрацыі

І бацька-ідэолаг не ўстаў на бок сына. **Старонка 7.**



Культура

### «І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі»

30 верасня Народны паэт Ніл Гілевіч святкуе 80-годдзе.

**Старонка 11.**

# Мэр Бабруйска: **«Мэрсэдэс» я ўзяў у крэдыт**

«Прадаў «Мазду-3» за 15 тысяч, дабавіў і купіў машыну **за 46 тысяч**».



**Дзмітрый Бонахаў — чыноўнік адкрыты: ён расказаў пра свой аўтамабіль.**

У інтэрнэце з'явілася інфармацыя, што мэр Бабруйска Дзмітрый Бонахаў набыў шыкоўны Mercedes-Benz M-класа ML 350 за службовыя грошы. «Не хацелася б верыць у той факт, што ў цяжкі час для горада і краіны чыноўнікі «шыкуюць» за дзяржаўныя грошы, але відаць, што гэты сумны факт з'яўляецца праўдай. Чуткі не лгуць», — напісаў сайт babruisk.by.

Аказалася, усё ж ілгуць, хоць няма дыму без агню. Кіраўнік Бабруйска сапраўды ездзіць на новай машыне, але гэта не дзяржаўны аўтамабіль.

Вось што расказаў сп. Бонахаў: «Так, у маім распараджэнні ёсць такое аўто. Але гэта не службовы аўтамабіль, куплены за бюджэтныя сродкі. Гэта мой асабісты аўтамабіль, куплены за мае грошы, у тым ліку — крэдыт, які я ўзяў у «Белаграпрамбанку». Купіў аўтамабіль ў сакавіку, яшчэ да падаражання [мытных плацяжоў], да крызісу. Каштаваў ён 46 тысяч долараў, а не 70—80, як напісана на сайце».

Са слоў сп. Бонахава, заробак старшыні райвыканкама — 4,2 мільёна рублёў. «Раней гэта было каля 1000 еўра. Цяпер гэта ўжо не тое, такое аўто я б сабе не набываў. А тады ўзяў 75 мільёнаў у крэдыт, ці 24 тысячы долараў. Прадаў свой былы аўтамабіль — «Мазда-3» за 15 тысяч, дабавіў і купіў машыну за 46 тысяч». Ёсць і службовае аўто — гэта «Мерсэдэс С180», набыты 10 гадоў таму.

Мэр патлумачыў таксама сітуацыю са звальненнем галоўнага інжынера бабруйскіх цеплаэнергетыкаў.

«Недзе пісалі, што быццам я ішоў на сваіх асабістых справах і спатыкнуўся на прыступках, а пасля гэтага даў указанне знесці кіраўніцтва. Насамрэч усё было працей. Іду падчас свайго адпачынку ў цэнтры горада. Бачу прыступкі — страшныя, не абкладзеныя пліткай, у цэнтры горада, ля «Бабра». Набіраю кіраўніцтву прадпрыемтва і даю даручэнне, каб за 3 тыдні навялі парадак. Скончаецца адпачынак. Ужо тыдзень як працую. Зноў прыязджаю на рынак паглядзець цэны і гэтак далей — трэба ж ведаць, чым жыве горад, — прыступкі не адрамантаваныя. Разбіраюся з дырэктарам. Чаму не выканалі? Пачынаюць шукаць тлумачэнне, маўляў, не паспелі і гэтак далей. Я загадаў прымяніць да іх меры дысцыплінарнага ўздзеяння. А гэты дырэктар бярэ і здымае свайго галоўнага інжынера. Не ведаю, чаму ён прыняў такое рашэнне, — яму відней. А напісалі, быццам бы я ішоў, паваліўся — і вось таму звольніў чалавека. Цырк на дроце».

Дзмітрый Бонахаў не лічыць неабходным рабіць нейкае абвяржэнне напісанаму, бо «...лічу інтэрнэт у значнай ступені памыйнай ямай: хто што хоча, тое і піша. Калі пачытаеце ўважліва, пішуць, што ледзьве не геі вакол мяне — дык што, мне зараз усім даказваць сваю мужчынскую сілу? Смешна, правільна? Хаця сумна».

**Аксана Рудовіч**

# Выплата 500 тысяч: **«Людзі па грошы ідуць, як з вайны са сцягамі!»**

**На поштах** даходзіць да канфліктаў.

«На нашай пошце няма рублёў!» — паведаміў «НН» наш чытач з Мінска. Здарылася гэта 21 верасня ў адным з паштовых аддзяленняў у мікрараёне «Паўднёвы Захад».

Загадчыца аддзялення была надзвычай эмацыйная. Па яе словах, у першы дзень выдачы дапамогі «на гародніну», тых самых 500 тысяч рублёў, у аддзяленне пошты набілася бітком народу.

«Людзі па грошы ідуць, як з вайны са сцягамі! Усе хочуць у першы дзень атрымаць. Але ж выдача грошай, згодна распараджэння, будзе адбывацца месяц. А мо і больш. Бо нам ніхто не называў канкрэтнай даты», — казала расхваляваная загадчыца пошты.

З яе тлумачэнняў вынікала, што такі наплыў людзей быў нечаканым.

«Атрымалі на выдачу 100 мільёнаў — за гадзіну іх ужо няма. Я тлумачыла людзям, што выдаваць будзем цэлы месяц, што нерэальна абслужыць усіх за раз. Але іх поўная зала, сварацца, б'юцца за грошы».

Жанчына патлумачыла, што яе аддзяленне прыняло адпаведныя меры, паведаміла кіраўніцтву і на момант тэлефанавання карэспандэнта «НН» чакала дадатковых 100 мільёнаў рублёў. «Я трымаю невялікі рэзерв для тых, каму ўжо зусім нельга чакаць, у каго вострая патрэба ў грошах», — казала загадчыца пошты.

На наступны дзень ажыятаж на мінскіх поштах пакрысе аціх. Тое самае назіралася і ў рэгіёнах, дзе ў першы дзень выдачы дапамогі па грошы прыйшоў свет народу. Як, напрыклад, у Баранавічах, дзе грошы «на гародніну» пачалі выдаваць 22 верасня.

Людзі хвалююцца, бо не хочуць атрымаць грошы апошнімі. Палохаюць цэны, якія змяняюцца ў крамах ці не штодня. Інфляцыя нават па сціплых афіцыйных падліках падбіраецца пад 70%.

**Сямён Печанко**

Указ №417 «Аб аднаразовай матэрыяльнай дапамозе» прадугледжвае аказанне аднаразовай дапамогі ў 500 тысяч рублёў асобам, якія на 1 верасня былі пенсіянерамі або работнікамі бюджэтнай сферы, уключаючы ваеннаслужачых.

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 5 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакладу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 9210 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 10626 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

## Сцісла

**Саннікаў здаровы, ён нават памыўся ў лазні**

Былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў здаровы, ён нават памыўся ў лазні. Пра гэта заявіў кіраўнік магілёўскага ізалятара №4 палкоўнік Аляксандр Ламаза. Саннікаў сустракаўся з адвакаткай, адзначыў ён. Ламаза патлумачыў рамонтам мастоў той факт, што этап Саннікава да Бабруйска ўвесь час адкладаецца.

Працяг тэмы — **старонка 7**.

**Беларускія памперсы**

Першы ў Беларусі завод па вытворчасці падгузнікаў маюць збудаваць у свабоднай эканамічнай зоне «Магілёў». Завод павінен пачаць выпускаць падгузнікі ўжо ў сакавіку 2012 года. Будуе прадпрыемства кампанія «БелЭмса». Каштаваць ён будзе 4 млн еўра. Праектная магутнасць першай чаргі складзе 112 млн штук падгузнікаў у год. Дзівосна, што працаваць будзе ўсяго 30 рабочых: прадпрыемства будзе поўнасцю аўтаматызаванае. Інвестыцыі ў «БелЭмсу» — турэцкія.

**У Мінску адчыняцца кавярні Muzz Buzz**

Усяго ў Беларусі будзе 20 такіх кавярняў. Аб'ём інвестыцый у праект склаў $5,5 млн.

**Сляды да пераходаў**

Каля некаторых гомельскіх школ з'явіліся вялікія яскравыя сляды — падказка школьнікам бяспечнага маршруту пераходу цераз дарогу. Ініцыятарам такой навінкі стала ДАІ.

**Віктар Ганчарэнка: Матч з «Барселонай» будзе ўрокам**

Калі жыхары рэгіёнаў будуць трымаць у руках гэты нумар, вынік гульні БАТЭ—«Барселона» будзе ўжо вядомы. У аўторак у Мінску прайшла перадматчавая прэс-канферэнцыя галоўнага трэнера БАТЭ. Матч з «Барселонай» будзе ўрокам, які пойдзе на карысць і дапаможа ў далейшым развіцці, заявіў Віктар Ганчарэнка. «Мы ўжо 10 дзён працуем над тым, як абараняцца і атакаваць», — расказаў ён. «Калі здарыцца, што прапусцім, трэба мяняць тактыку, хоць з «Барселонай» гэта вельмі цяжка. Але калі думаць пра цяжкасці, не будзе магчымасцяў», — падкрэсліў трэнер БАТЭ. Спорт — **старонка 8**.

**СГ**

**Самае чытанае на nn.by за 21—27 верасня**

1. 16-гадовага прэзідэнцкага лаўрэата выгналі з Ліцэя БНТУ за ўдзел у дэманстрацыі
2. Мінск ізноў пратэстуе ў серады
3. «Рэвалюцыя праз сацсеткі» рыхтуе начную акцыю пасля матча БАТЭ — «Барселона»
4. Саша Ханін: першы беларускі мадэль-андрагін
5. «Мотаршоу-2011» — фотарэпартаж
6. У палі выганяюць 11-гадовых дзяцей
7. Бясстыжыя, або Школьнікі як рабсіла
8. Ермакова ўратавала даляр ад абвалу. Курс — 7950
9. Цікавы момант на валютным рынку
10. Загадкавыя скульптуры на трасе Мінск—Маладзечна + фоты

# Пуціным у Расіі зноў стаў Пуцін

Працяг са старонкі 1.

У Бразіліі, Паўднёвай Афрыцы, Турцыі, Інданэзіі і Індыі — дэмакратыя, прававая дзяржава, дух канкурэнцыі. Нават у камуністычным Кітаі ратацыя кіраўніцтва адбываецца кожныя дзесяць гадоў. Вопыт Мао Цзэдуна навучыў.

Прастора былога СССР застаецца найбольшым у свеце запаведнікам аўтакратыі. Лукашэнка, Назарбаеў, Карымаў, Аліеў, Бердымухамедаў будуць сябе камфортна адчуваць у кампаніі з Пуціным. Які сам прызнаваўся, што «цэніць» адданасць Лукашэнкі інтэграцыі з Расіяй.

З аднаго боку, утвараецца «святы саюз дыктатараў», якія адзін за другога гатовыя грудзьмі ўстаць, калі што. Не таму, што адзін другога любяць — часам зайздросцяць і ненавідзяць, дыктатары па вызначэнні мала каго любяць — проста баяцца эфекту даміно, які ўсе чарговы раз пабачылі на Блізкім Усходзе.

З другога боку, мяркуе палітолаг Аляксандр Класкоўскі, Мінск не рады павароту падзей у Расіі. Бо, у сілу асаблівасцяў адносін дзвюх краін, Мінск баіцца ўзмацнення Масквы. Атрымліваць палітычныя дывідэнды лягчэй, калі можна гуляць на супярэчнасцях.

Расійская апазіцыя мела надзеі, што аддаленне Мядзведзева ад Пуціна, мядзведзеўцаў ад пуцінцаў урэшце здольнае нарадзіць у Расіі агульнапрыняты палітычны плюралізм і дух канкурэнцыі. Спадзявалася на такі нетыповы шлях да дэмакратыі. Але альфа-самец паклаў канец спектаклю, які доўжыўся чатыры гады.

У адрозненне ад суседак, Беларусь збёдала дваццаць гадоў незалежнасці і застаецца прывязанай да былой метраполіі эканамічна і вайскова. Вяртанне да адкрытага кіравання Пуціна азначае, што ва ўсім постсавецкім рэгіёне будзе менш дэмакратыі. Пытанне дэмакратызацыі Беларусі зробіцца ў большай ступені пытаннем выхаду з-пад уплыву Расіі.

А ў доўгатэрміновым плане нашай краіне трэба быць гатовай да нестабільнасці ў Расіі. Нязменнасць кіраўніка азначае раней ці пазней нарастанне супярэчнасці між нязменнасцю ўлады і зменамі ў грамадстве.

**Мікола Бугай**

**Сапраўдны прыклад дабрыні і маральнасці**

Пасля «рашэння» Мядзведзева вылучыць Пуціна на трэці тэрмін — г.зн. аж да пенсіі — у Расіі грыміць хор падпявалаў. «Гэта сапраўдны прыклад дабрыні і маральнасці ў палітыцы, прыклад, якому, памойму, могуць пазайздросціць не толькі нашы папярэднікі і людзі, што жылі ў савецкі час, але і грамадзяне большасці краін свету, уключаючы тыя, якія спрабуюць нас вучыць», — сказаў кіраўнік сінадальнага аддзела па ўзаемаадносінах Царквы і грамадства Расейскай праваслаўнай царквы пратаярэй Усевалад Чаплін.



# Напалі на офіс ініцыятараў «Народнага сходу»

У прафсаюзе радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) **пабілі шыбу**.



Народны сход мае адбыцца 8 кастрычніка. »

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У ноч на пятніцу адбыўся напад на мінскі офіс незалежнага прафсаюза, што месціцца па адрасе Кульман, 4. У памяшканні пабітая шыба, а дзвяры заляпаныя чорнай фарбай. Да дзвярэй таксама была прымацаваная ўлётка з абрэвіятурай АНБ (аўтаномныя нацыянал-бальшавікі) і выявай чалавека ў чорнай масцы.

Кіраўнік РЭП Генадзь Фядыніч выклікаў міліцыю. Акурат у той дзень на офісе мусіла прайсці прэс-канферэнцыя да Народнага сходу.

Народны сход мае адбыцца 8 кастрычніка. У Мінску арганізатары збіраюць людзей а 13-й гадзіне ў парку Дружбы народаў. Народныя сходы ў той самы час маюць сабрацца яшчэ ў 28 гарадах.

«Нам не патрэбны юрыдычны дазвол ад улад для правядзення народных сходаў, — кажа адзін з ініцыятараў Віктар Івашкевіч. — Пры падрыхтоўцы да правядзення мерапрыемства мы кіруемся Законам аб мясцовых сходах. Там напісана, што «мясцовыя сходы могуць праводзіцца на тэрыторыі адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, альбо яе часткі (у мікрараёнах, жылых комплексах, кварталах, вуліцах, дварах, пасёлках). Мясцовыя сходы могуць склікацца па ініцыятыве не менш за 10 працэнтаў грамадзян, якія стала жывуць на адпаведнай тэрыторыі».

«Вы ж ведаеце, што збор подпісаў у падтрымку народных сходаў прайшоў больш-менш паспяхова, — працягвае ён. — І там, дзе неабходная колькасць подпісаў сабраная, мерапрыемствы абавязкова пройдуць. Больш за тое, Закон аб масавых мерапрыемствах не распаўсюджваецца на Закон аб мясцовых сходах, іншымі словамі, заяўку на правядзенне народных сходаў у выканкамы падаваць не трэба».

Івашкевіч адзначыў, што прадстаўнікі мясцовай улады ў тых населеных пунктах, дзе плануецца правядзенне народных сходаў, атрымаюць запрашэнне да ўдзелу ў мерапрыемстве. «Але яшчэ раз падкрэсліваю — гэта будзе не заяўка на дазвол, а запрашэнне да ўдзелу», — адзначыў палітык.

Вядома, Народны сход праігнараваць будзе складана, асабліва калі ён будзе шматлюдны. Таму кіраўніцтва краіны, якое трымаецца за ўладу рукамі і нагамі, прымае меры, каб сход сарваць. Якраз з гэтым можна звязаць серыюператрусаў і затрыманняў у розных рэгіёнах краіны (Гомель, Бабруйск, Салігорск, Брэст). Спецслужбы шукаюць улёткі з заклікам на сході затрымліваюць тых, хто іх распаўсюджвае.

**ЗП, МБ**

# Мартынаў: Беларусь стала аб'ектам эканамічных санкцый за выбар, які народ зрабіў на выбарах прэзідэнта

Беларускі міністр выступіў на 66-й Генеральнай асамблеі ААН.

«Беларусь стала аб'ектам не толькі нападак, але і эканамічных санкцый за выбар, які беларускі народ зрабіў на выбарах свайго прэзідэнта», — заявіў міністр замежных спраў Сяргей Мартынаў, выступаючы 27 верасня на 66-й сесіі Генеральнай асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. «Беларусы ніколі не адмовяцца ад свайго права на выбар. Вызначэнне ўласнага шляху развіцця з'яўляецца для нас свяшчэннай каштоўнасцю. Ні санкцыі, ні шантаж і пагрозы не зменяць нашай пазіцыі.

Права на нашым баку», — падае словы кіраўніка замежнапалітычнага ведамства Беларусі Цэнтр навін ААН.

Мартынаў таксама заявіў, што хаос паглынае планету і свет функцыянуе без сістэмы і парадку. Ён адзначыў, што сёння трэба глабальная стратэгія супраць хаосу, заснаваная на ўмацаванні міжнароднага права, палітыцы глабальнага партнёрства і ажыўлення ААН.

«Адзін глабальны крызіс перарастае ў другі. Міжнароднае права бессаромна парушаецца. Няроўнасць і беднасць нарастаюць, і, самае галоўнае, усё больш людзей у свеце зведваюць пакуты», — падкрэсліў Сяргей Мартынаў.

Кіраўнік беларускага МЗС заклікаў да ўмацавання глабальнага партнёрства ў мэтах развіцця, у тым ліку да вырашэння пытанняў перадачы сучасных і эфектыўных энергетычных тэхналогій краінам, якія развіваюцца, і краінам з сярэднім узроўнем даходу. Мартынаў падкрэсліў, што такі падыход уняce ўклад у пераадоленне праблемы змянення клімату. «Давайце, у рэшце рэшт, зразумеем: сёння не можа быць зялёнага раю для багатых краін і забруджанага пекла для бедных. Абмежаваная прастора Зямлі выключае такую магчымасць», — адзначыў міністр.

Ён выказаўся за стварэнне пад эгідай ААН глабальнага механізму, які забяспечыць доступ да сучасных энергетычных тэхналогій для ўсіх краін. Мартынаў прыцягнуў увагу да фарміравання па ініцыятыве Беларусі Глабальнага партнёрства супраць рабства і гандлю людзьмі, а таксама заклікаў да распрацоўкі глабальнай палітыкі па абароне інтарэсаў моладзі.

Сяргей Мартынаў выступіў на 66-й сесіі Генасамблеі ААН у Нью-Ёрку ў рамках агульнапалітычнай дыскусіі. У ходзе гэтай дыскусіі, якая пачалася 21 верасня, дзяржавы — члены ААН абмяняюцца думкамі па найбольш важных і неадкладных пытаннях міжнароднага парадку дня.

**БелаПАН**

# Маўклівыя пратэсты вярнуліся


PHOTO BYMEDIA.NET

Пасля амаль двухмесячнага перапынку вярнуліся акцыі ў рамках «Рэвалюцыі праз сацыяльную сетку».

Выйсці па актыўнасці на ўзровень чэрвеня пакуль не атрымалася. 21 верасня на праспекце Незалежнасці ў ладкі пляскалі пару соцень чалавек.

Міліцыя на гэты раз паводзіла сябе карэктна. Нікога не затрымлівалі. Арганізатары ацанілі вяртанне як пазітыўнае.

Цяпер арганізатары супрацоўнічаюць з традыцыйнай апазіцыяй. Мяркуецца, што такія акцыі будуць папулярызаваць ідэю «Народнага сходу» 8 кастрычніка.

Наступнае мерапрыемства запланаванае на 28 верасня. На гэты раз «Вечар апладысментаў» будзе прымеркаваны да гульні БАТЭ — «Барселона».

Прапануецца пляскаць у далоні на Кастрычніцкай пасля матча, ад 0.00 да 1.00 ночы.

**Зміцер Панкавец**

## Макей распусціў Кансультацыйную раду пры Адміністрацыі

**Каб не ганьбіць** яе сяброў.

У пятніцу раніцай сябры Грамадска-кансультацыйнай рады пры Адміністрацыі прэзідэнта атрымалі ліст аб скасаванні гэтай структуры. Паведамленне прыйшло за подпісам кіраўніка Адміністрацыі Уладзіміра Макея.

«Аналізуючы сітуацыю, што склалася ў апошні час вакол Рады, бачу, што яе праца не можа быць па-сапраўднаму плённай у атмасферы абвінавачванняў у тым, што гэтая структура цалкам падкантрольная ўладзе, што сябры Рады — гэта прызначэнцы Адміністрацыі прэзідэнта і гэтак далей», — напісаў Макей.

«Удзельнікі дзейнасці ГКР заznaюць незаслужанае шальмаванне з боку ўнутраных і знешніх апанентаў шчырага дыялогу. Вы самі гаварылі мне пра тое, што вас абвінавачваюць у «супрацоўніцтве з уладамі». Абсалютна не хацелася б, каб дзейнасць ГКР наносіла ўрон рэпутацыі кожнага з вас, вяла да расколу грамадзянскай супольнасці ў Беларусі», — зазначаецца ў лісце.

Сябра Рады, журналіст Пятро Марцаў кажа: «Ад пачатку было зразумела, што Рада не будзе эфектыўнай. Калі яна не карыстаецца даверам, то, відаць, і не патрэбная. Уладам яна таксама не надта трэба, бо яны і так даволі самадастатковыя».

«Рада была поўнасцю бяззубая, прайшло толькі два пасяджэнні больш чым за два гады. І нічога не вырашыла. Таму трэба было яе распускаць», — лічыць былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч.

Грамадска-кансультацыйная рада пры Адміністрацыі прэзідэнта створаная ў пачатку 2009. Мэтай было абмеркаванне «актуальных пытанняў развіцця дзяржавы і грамадства, выпрацоўка прапаноў па больш актыўнаму ўцягванню Беларусі ў сусветны працэсы, удасканальванне накірункаў сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця краіны».

**ЗП**



PHOTO BYMEDIA.NET

**Уладзімір Макей штогод наведваў «Мінскі форум».**

## «Мінскага форуму» не будзе, пакуль палітвязні за кратамі

Штогадовага «Мінскага форуму» сёлета не будзе, такое рашэнне прынялі арганізатары мерапрыемства. Форум праходзіў штогод у лістападзе, ён быў пляцоўкай для дыскусій і дыялогу паміж Германіяй, Еўрасаюзам і Беларуссю. Прычынай сталі «ўнутрыпалітычныя працэсы пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010».

«Правядзеннем арыштаў кандыдатаў у прэзідэнты, а таксама іншых палітычна актыўных грамадзян краіны беларускі ўрад адрокся ад паляпшэння адносінаў з Еўрапейскім Саюзам і краінамі, якія ўваходзяць у склад ЕС, і сышоў з агульнай пляцоўкі для дыялогу», — адзначыў старшыня нямецка-беларускага таварыства і «Мінскага форуму» Райнер Лінднер.

Нямецка-беларускае таварыства і арганізацыі-партнёры «Мінскага форуму» патрабуюць, каб вызваленне палітычных вязняў, якое пачалося ў апошнія дні, было завершана неадкладным вызваленнем і поўнай рэабілітацыяй усіх арыштаваных.

Толькі пасля гэтага ўзнаўленне былых фармаў дыялогу стане магчымым.

«Мінскі форум» праходзіў штогод ад 1997. Адмена мерапрыемства — важны жэст з нямецкага боку.

**ЗП**



**Бой падушкамі ўсё ж адбыўся**

25 верасня ў адным са сталічных паркаў прайшла чарговая бітва падушкамі. Каля паўсотні маладых людзей з асалодай малацілі адзін аднаго гэтымі бяскрыўднымі атрыбутамі хатняга ўжытку.

Ахвяр і пакрыўджаных не назіралася, затое шмат было рогату і сяброўскіх кпінаў.

Першапачатковае мерапрыемства, запланаванае на 10 верасня, было адмененае праз жалобныя мерапрыемствы ў Парку Горкага ў сувязі з гібеллю яраслаўскага «Лакаматыва».

**БелаПАН**

## Раманчук выйшаў з АГП

Экс-кандыдат у прэзідэнты хоча засяродзіцца на **экспертнай працы.**

Яраслаў Раманчук напісаў заяву аб выхадзе з Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Выхад з партыі ён растлумачыў неабходнасцю больш часу аддаваць экспертнай працы.

Хаця пытанне аб выключэнні Раманчука ставілася адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў. Нагадаем, што 20 снежня кандыдат АГП выступіў на дзяржаўных тэлеканалах з асуджэннем Плошчы, а таксама кандыдатаў Статкевіча і Саннікава.

«Падзеі ночы 19 снежня паставілі пад пагрозу жыцці людзей. Андрэю Саннікаву, падаграваванаму яго жонкай Ірынай Халіп, вельмі хацелася сарваць крохкі дыялог, які зараджаўся паміж Беларуссю і міжнароднай супольнасцю», — сказаў нібыта пад дыктоўку палітык.

Турмы Раманчук пазбег, а вось давер да яго рэзка ўпаў. Пытанне аб выключэнні падымалі такія паважаныя партыйцы, як Станіслаў Багданкевіч і Міхаіл Чыгір. Было вырашана, што канчатковае рашэнне прыме з'езд. А вось функцыі намесніка старшыні Раманчук выконваць перастаў, фактычна, ужо тады.

«Я прымаю адказнасць за тое, што зрабіў», — сказаў цяпер сам кандыдат. Ён лічыць, што «слабасць — гэта не здрадніцтва».

«Ад маёй слабасці пацярпеў я сам, мае сваякі. Ад маіх слоў нікога не пасадзілі, нікога не пакаралі, нікога не пазбавілі права на жыццё. Я рабіў усё, што было ў маіх сілах, каб выратаваць членаў сваёй каманды», — зазначыў Раманчук.

**ЗП**

**Карняенка больш не намеснік Мілінкевіча**

Віктар Карняенка напісаў заяву аб складанні з яго паўнамоцтваў намесніка старшыні Руху «За свабоду». Прычынай сталася рознасць поглядаў на далейшую перспектыву Руху.

«Рух, як мне здаецца, вяртаецца ва ўтульны для яго «трэці сектар». А я не хачу быць на падтанцоўцы нейкіх чужых стратэгій і ніколі на гэта не пайду», — сказаў палітык.

# Рэкордны бюджэт «Дажынак-2011»

Працяг са старонкі 1.

### Пятая частка ўсіх грошай — на Лядовы палац

Гэта адна пятая частка ад усіх выдзеленых сродкаў. Паводле апісання БелТА, гэта будзе «сучасны шматфункцыянальны комплекс, дзе можна будзе праводзіць не толькі спартовыя спаборніцтвы, але і масавыя мерапрыемствы, канцэрты. У склад комплексу ўвойдуць трэнажорныя, спартовыя залы, медыкааднаўленчы цэнтр, а таксама плавальны басейн з элементамі аквапарку». Калі казаць спрошчана — Лядовы палац на 2800 месцаў як сімвал «Дажынак». Падобныя збудаванні ўжо з'яўляліся ў такіх хакейных гарадах, як Пружаны, Ліда і Кобрын.

Другі шык — штучнае возера ў цэнтральным парку Перамогі. «Рэканструкцыя парку культуры і адпачынку» каштавала амаль 27 мільярдаў рублёў. Тут зрабілі водныя перакаты, пабудавалі фантаны і альтанкі, а таксама заклалі Востраў закаханых.

Будаўніцтва амфітэатра каштуе танней — усяго 21 мільярд рублёў. Ён ужо паспеў запрацаваць. У канцы жніўня ў ім тры дні праводзіўся Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі.

На рамонт збудаванняў сацыяльнай сферы — школ, паліклінік, цэнтраў занятасці — выдзелена 65 мільярдаў рублёў. Гандлёвыя аб'екты і аб'екты грамадскага харчавання ацэненыя ў 7 мільярдаў.

Нарэшце, капрамонт 98 жылых дамоў у самім Маладзечне каштаваў бюджэту амаль 32 мільярды рублёў, рамонт і афарбоўка яшчэ столькі ж — 7 мільярдаў.

**Ягор Марціновіч**




Дажынкі 2010 года прайшлі ў Лідзе, у 2012-м будуць Горкі.

**Мільярдная геаграфія**




Колькі каштавалі ранейшыя «Дажынкі», мільярдаў рублёў

**Маладзечанскія школы зачыняцца на тыдзень**

Ад 26 верасня да 1 кастрычніка ў школах горада абвешчаныя канікулы. Школы прыпыняюць сваю дзейнасць у сувязі з тым, што навучэнцы і настаўнікі будуць рыхтаваць горад да «Дажынак».

## Цікавы момант на валютным рынку

**Курс апусціўся да ўзроўню, які існаваў перад дадатковай сесіяй.**

Курс даляра ў абменніках і на чорным рынку замёр.

Ад другой паловы мінулага тыдня ён трымаецца на ўзроўні 7200 —7800 рублёў за даляр. Хто памятае, гэта роўненька той курс, на якім чорны рынак стабілізаваўся перад увядзеннем дадатковых сесій на біржы. Пасля быў дзівосна высокі курс дадатковай сесіі і яго тыднёвае апусканне пад фанфары.

Насуперак меркаванню многіх эканамістаў, адкладзены попыт на рублі быў вышэйшы, чым адкладзены попыт на даляры, таму пасля «раскаркоўкі» абменнікаў больш людзей панесла туды валюту здаваць.

У выніку рубель падышоў да важнага псіхалагічнага парогу 7500. Ці гатовыя людзі здаваць даляр па ніжэйшай цане? Ці гатовы Нацбанк забяспечыць валютны голад малога прыватнага бізнэсу? Ад адказу на гэтыя пытанні залежыць далейшая дынаміка курса.

Каб ён апускаўся далей, патрэбны інтэрвенцыі Нацбанка.

Пакуль рубель стаіць на месцы.

**Сяргей Гезгала**

**Злоты і расійскі рубель таксама апускаюцца**

За апошня тыдні расійскі рубель і злоты ўпалі адносна даляра і еўра на 10—15%. Пагроза сусветнага эканамічнага крызісу б'е па менш надзейных валютах.

**Курсы аўторка**

У Мінску найніжэйшы курс продажу даляраў па стане на 18.00 аўторка выставіў банк «Гандлёвы капітал» — 7700 рублёў (у пятніцу было 7650).

«Трастбанк» купляў даляры па 7660 рублёў (у пятніцу найлепшы курс складаў 7580), а еўра за 10450 (было 10 210) рублёў.

«Беларусбанк» сёння купляў даляры за 7580 рублёў, еўра — за 10200. Даляры прадаюцца за 7780, еўра — за 10600.

Абмены валютай праз сайт-абменнік Prokopovi.ch амаль згарнуліся пасля пераходу банкаў на рынкавы курс.

**Найлепшы абменны курс у банках можна пабачыць на select.by/kurs/**

### Сціпла

**Невялікі рост пенсій**

З 1 лістапада трохі паднімуць пенсіі. Пераразлік пройдзе зыходзячы з росту сярэдняй зарплаты работнікаў за трэці квартал.

**Грэчка патаннее**

Ураджайнасць грэчкі сёлета напалову вышэйшая, чым летась. Збіраюць каля 15,2 цэнтнера з гектара, а ў мінулым годзе было толькі каля 10. Усяго намалоцяць каля 56 тыс. тон грэчкі, або каля 6 кг на кожнага жыхара. Дзякуючы гэтаму можна чакаць зніжэння цэнаў на гэтыя ўлюбёныя і дужа карысныя крупы, якія ў выніку леташняга неўраджаю цэлы год былі недакупна дарагія.

**Свая скура бліжэйшая. Але ці лепшая?**

Дзяржкантроль забараніў шыць абуткі з замежнай сыравіны. Кантралюючыя органы выявілі, што магілёўская абутковая кампанія, якая вырабляла дзіцячы абутак «Шаговита», карысталася выключна замежным скураным таварам. Да снежня прадпрыемства пяройдзе на айчынную сыравіну.

**Перавод**

Рублёвыя дэпазіты дазволілі пераводзіць у валютныя. Першым гэта зрабіў «Белінвестбанк». Ніякіх бонусаў, павышаных і паніжаных адсоткаў для тых, хто пераводзіць свой дэпазіт, не прадугледжана.

**Элітны Віленскі**

На месцы мінскай птушкафабрыкі імя Крупскай паўстане прэстыжны раён. Там пасяліцца каля дзесяці тысяч чалавек. Мікрараён «Віленскі» пачнецца ад 7-й гарадской бальніцы і ўпішацца паміж рэчышчам Свіслачы, вуліцай Нававіленскай і катэджамі Зацені.

**Беларусь у трывожнай зоне**

Міжнароднае рэйтынгавае агенцтва Standard & Poor's панізіла доўгатэрміновы рэйтынгі Беларусі ў замежнай і нацыянальнай валюце да «В-». Прагноз рэйтынгаў «негатыўны».

**Добрушскую папяровую фабрыку абновяць кітайцы**

Дзяржаўны банк развіцця Кітая будзе фінансаваць інвестыцыйны праект па пераабсталяванні прадпрыемства. Кошт — $350 мільёнаў.

**ЯМ, СГ**

## Зноў падаражэе масла?

**Рост цэнаў на малако і мяса працягнецца.**

Дэфіцыт нейкага прадукту ў апошні год стаў вернай прыкметай будучага росту цэнаў. Цяпер у мінскіх крамах стаў малы выбар масла: пераважна прадаюцца раслінна-сметанковыя спрэды. Цэны на малако, тварог і сыры за апошнія тыдні выраслі адчувальна, і не раз, а вось масла шмат дзе ляжала па старых цэнах — вядома, не на веснавых, а па жніўеньскіх. Відаць, новыя партыі гэтага прадукту могуць падаражэць.

Міністэрства эканомікі ўзняло закупныя цэны на малако на 55%.

Крамы чакаюць таксама дадатковага росту цэнаў на мяса, бо закупныя цэны свініны і ялавічыны выраслі на 62—67%. У выніку магчымы рост розвнічных цэнаў на 15—20%.

**СГ**

## Крыніца ў Сбербанку: «Беларуськалій» ацэньваецца ў $12 —15 мільярдаў

**насуперак словам**
**Лукашэнкі пра ацэначны кошт $30 млрд.**

Расійскі Сбербанк праводзіў ацэнку «Беларуськалія», але не як ацэншчык для яго магчымага наступнага продажу, а з пункта гледжання залогавага кошту яе акцый. Пра гэта расійскім «Известиям» паведаміла крыніца, блізкая да Сбербанка.

Паводле слоў суразмоўцы «Известий», выйшла, што кошт усёй кампаніі складае каля $12 —15 мільярдаў.

На думку аналітыка Reiffeizenbank Канстанціна Юмінава, максімальная ацэнка кампаніі — $15 —17 мільярдаў. Трэба ўлічаць рызыкі эканомікі Беларусі, непразрыстасць самой кампаніі і адсутнасць у яе фінансавай справаздачнасці па Міжнародных стандартах фінансавай справаздачнасці, кажа эксперт.

**Паводле БелаПАН**

# «Прасцей за ўсё ў вёсцы цяпер жывецца пітушчым»

**Што вяскоўцы кажуць** пра тэракт, крызіс і палітыку.

На пару дзён наведаўся на малую радзіму — Карэлiччыну. Паразмаўляў з роднымі, землякамі. Даведаўся, што яны думаюць пра набалелае.

Прасцей за ўсё ў цяперашняй вёсцы жывецца пітушчым. На 10 тысяч можна выпіць — і забыўся да вечара. Калі ж чалавек не п'е, яму трэба думаць, як пры заробку ў 600 тысяч кожны дзень купіць паесці, у што апрануць дзяцей.

«Захацела набыць кавалачак сала, то ў цэлай вёсцы не знайшла!» — кажа жанчына, якая працуе ў школе. Бачыць пустыя паліцы ў вёсцы — дзіка. І яны пустыя не таму, што хтосьці паддаўся паніцы і расхапаў. А таму, што тое малако і мяса ў вёску пачалі вазіць з перабоямі. Між тым цэнавая палітыка дзяржавы была скіравана на тое, каб вяскоўцы пазводзілі кароў, перасталі гадаваць свіней. Цяпер многія задумваюцца, каб вярнуцца да ранейшага ладу. Хоць і без асаблівага захаплення ад такой неабходнасці.

Землякі ахвотна абмяркоўваюць «гуманітарныя» 500 тысяч. Кожны хоча атрымаць хутчэй, бо ведае, што праз месяц тая дапамога можа «схуднець». Людзі па-свойму тлумачаць, чаму ў абменніках услед за з'яўленнем валюты зніклі нашы рублі. «Людзі да апошняга трымалі мазалём заробленыя даляры, не здавалі іх па дурным курсе. А цяпер, калі ўшчэнт пад'елі запасы, кінуліся здаваць».

Тэракт у метро мала хвалюе вяскоўцаў. Мінск і ягоныя праблемы для большасці вяскоўцаў чужыя і далёкія, як іншае вымярэнне. Цікавасць да трагедыі трывала ў першыя дні, трохі ажывілася ў пачатку суда. Да асобаў абвінавачаных людзі ставяцца з падазрэннем. «Ну не маглі простыя рабацягі без чыёйсьці дапамогі такое зрабіць!»

Загаворваю са старэйшым братам пра гандаль палітвязнямі. Пра тое, што Статкевіча і Севярынца на «таргі» выставілі ўжо другі раз. Брат пацiскае плячыма: у нас і пра першы раз ніхто не чуў. Вёска даведваецца пра апазіцыю раз на пяць год, у часе прэзідэнцкіх выбараў, калі альтэрнатыўныя кандыдаты «трапляюць у тэлевізар».


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Але і да ўладаў асаблівай прыязнасці не адчуваецца. Праўда, найперш да мясцовых. «Бесталковыя і лянівыя начальнікі кідаюць цень на ўсю ўладу — да самага верху», — кажа вясковы прадпрымальнік. Для яго галоўнае, каб яму не заміналі працаваць.

...У вясковай краме дзядуля жахаецца цэнам. Купіў па звычцы паўкілі цукерак унукам, сабе віна, а плаціць трэба ажно 30 тысяч. «Раней за гэты набор даваў 10 тысяч», — кажа дзед. І раптам мяняецца з твару: «Нічога, бульбу выкапалі —неяк пражывём! А вось як вам, маладым?» Прадавачка ўдае крыўду: «А мы што, не людзі? Таксама бульбы накапалі!»

Беларускі запас трываласці аднолькава бясконцы паўсюль — і ў Карэлічах, і ў Заслаўі.

**Сямён Печанко**

# Гэта яшчэ кветачкі

Студэнтка адхвастала ўкраінскага міністра-русіфікатара букетам па твары. **Інцыдэнт у Кіеве** здарыўся на вачах у беларускага міністра Сяргея Маскевіча.

Беларускі міністр адукацыі Сяргей Маскевіч трапіў у самую гушчу студэнцкіх пратэстаў у Кіеве, звязаных з правядзеннем там міжнароднай адукацыйнай канферэнцыі. Акрамя беларускага міністра адукацыі, удзел у ёй узялі кіраўнікі профільных міністэрстваў болей чым сарака еўрапейскіх краін.

Праца міжнароднага форуму «Сістэма адукацыі ў Еўропе ў XXI стагоддзі» ў Кіеве пачалася са скандалу: студэнтка прэстыжнай Кіева-Магілянскай акадэміі адлупцавала міністра адукацыі Дзмітрыя Табачніка букетам кветак. Той застаўся жывы, але, відаць, моцна пакрыўджаны: мясцовая міліцыя завяла на дзяўчыну справу, цяпер ёй пагражае 15 сутак арышту.

Беларускі міністр сітуацыю жыва прачуў: «Калі ласка, збірайце подпісы, яшчэ неяк выказвайцеся, але выказваць вось такім чынам пратэст, я лічу, гэта проста прыкмета нявыхаванасці», — заявіў ён у інтэрв'ю кіеўскаму тэлеканалу.

Украінскія ж студэнты сяброўку падтрымалі. Кіева-Магілянка абвясціла забастоўку. Галоўнае патрабаванне — адстаўка міністра адукацыі Табачніка, які праслаўіўся перапісваннем падручнікаў гісторыі Украіны ў савецкім духу.

**Generation.by**

# Співаемся

Продаж гарэлкі і піва **ўзрос на 13—15%**.

Паводле звестак Белстата, у студзені—жніўні рэалізацыя гарэлкі павялічылася на 15% у параўнанні з такім жа леташнім перыядам. Прычым расце доля гарэлкі ў агульным аб'ёме спажывання алкаголю.

Увогуле, на спіртное беларусы трацяць дзясятую частку ўсіх грошай, якія пакідаюць у крамах.

Больш прадалі і піва: рост на 13% проці мінулага года.

**Сяргей Гезгала**



# Валэнса наведаў Ярузэльскага ў шпіталі

**Прымірэнне і дараванне** праз 30 гадоў.



Інфармацыйныя агенцтвы паспелі назваць гэты поціск рук сімвалам прымірэння двух былых кіраўнікоў Польшчы.

Пасля ўвядзення генералам Ярузэльскім ваеннага становішча Лех Валэнса ў ліку іншых актывістаў «Салідарнасці» трапіў на год пад арышт. Пасля гэтага ў 1983 годзе ён атрымаў Нобелеўскую прэмію міру.

А савецкі стаўленнік Войцех Ярузэльскі ў 1989 годзе ўрэшце пагадзіўся на правядзенне шматпартыйных выбараў. Гэтаму папярэднічаў «круглы стол» пры ўдзеле ўладаў і апазіцыі. У выніку прэзідэнтам быў абраны Валэнса.

У 2007 годзе супраць Ярузэльскага і шэрагу іншых былых камуністычных кіраўнікоў выставілі абвінавачванне за ўвядзенне ў снежні 1981 года ваеннага становішча. Справа цягнецца марудна. Праз 4 гады ўрэшце суд выключыў Ярузэльскага з судовага працэсу — з прычыны стану здароўя. У яго рак лімфасістэмы.

У шпіталі Ярузэльскага і адведаў Валэнса.

**СГ**

# Чыж запрасіў Астаповіча на размову

Кіраўнік Таварыства аховы помнікаў заклікаў прадпрымальніка **не разбудоўваць Ракаўскае прадмесце**.

У мінулым нумары «Наша Ніва» пісала пра планы ТАА «Трайпл» Юрыя Чыжа забудаваць кавалак Ракаўскага прадмесця. У выніку, калі праект зацвердзяць, будуць зруйнаваныя будынкі хлебазавода №1, якія ахоўваюцца дзяржавай, а замест іх паўстане не нізкі гатэль.

У сувязі з гэтым старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч звярнуўся з адкрытымі лістамі да міністра культуры Паўла Латушкі, кіраўніка Адміністрацыі Лукашэнкі Уладзіміра Макея і ўладальніка «Трайпла» Юрыя Чыжа.

Ён заклікае «адмовіцца ад рэалізацыі праектнай прапановы».

Па словах Астаповіча, наступіла першая рэакцыя на яго звароты — памочнік Юрыя Чыжа запрасіў яго на размову.

**СП**

# 16-гадовага прэзідэнцкага лаўрэата выгналі з Ліцэя БНТУ за ўдзел у дэманстрацыі

А з дому яму прыйшлося сысці **праз ідэйны канфлікт** з бацькамі (тата выкладае ідэалогію ў Вайсковай акадэміі).

Так Раман Пратасевіч развітаўся з марай стаць студэнтам Вайскова-касмічнай акадэміі.

Гісторыя Рамана пачалася 6 ліпеня. Тады 16-гадовага юнака затрымалі на маўклівай акцыі ў Мінску. Як непаўналетняга, яго адпусцілі, але бацькам і ў навучальную ўстанову паведамілі.

Бацькі юнака не падзяляюць перакананні сына.

Таму без скандалу не абышлося.

Тата ў Рамана ідэолаг. Дзмітрый Пратасевіч працуе старшым выкладчыкам кафедры ідэалагічнай працы Вайсковай акадэміі. А мама, шчыра праваслаўная, са словаў юнака, спрабавала зацягнуць сына на сеанс экзарцызму, каб «выгнаць д’яблаў».

Пасля акцыі, кажа Раман, яго адлічылі з Ліцэя БНТУ. Перад гэтым былі неаднаразовыя размовы з адміністрацыяй навучальнай установы. Папярэджвалі, што ў выпадку, калі і далей будзе будзе рабіць не так, як іншыя, яго адлічаць. Юнак не выракся сваіх поглядаў.

Ад бацькоў Раман сышоў. Жыве цяпер асобна. Па месцы рэгістрацыі ён пайшоў у 11-ы клас звычайнай сярэдняй школы. Хоча перайсці ў Коласаўскі ліцэй.

Раман Пратасевіч — неаднаразовы пераможца алімпіяд па фізіцы. Ён адзначаны прэзідэнцкай прэміяй за навуковую працу па фізіцы — па новых тыпах рухавікоў.

На конкурсе ў Санкт-Пецярбургу ягоная праца заняла другое месца. Працягваць вучобу пасля Ліцэя думаў у мінскім БДУІРы, але запаветнай яго марай была піцерская Вайскова-касмічная акадэмія. Але цяпер з ягонай характарыстыкай, думае Раман, яму можна забыць і аб прафесіі вайскоўца.

**Сяргей Макарэвіч**

Дырэктарка Ліцэя БНТУ адмовілася каментаваць адлічэнне Рамана Пратасевіча. «Не хачу весці размову на гэтую тэму», — заявіла Галіна Галяш. Яна абурана тым, што да яе адразу не звярнуліся журналісты, а запісалі ўсё са слоў непаўналетняга Рамана. І «раздзьмулі скандал», кажа яна. Але жанчына не захацела назваць афіцыйную версію адлічэння юнака, каб праясніць сітуацыю.




EURORADIO.FM

# Саннікава і Дашкевіча мучаюць этапамі

Палітвязняў **без прычыны** пераводзяць з калоніі ў калонію.

Жонка экс-кандыдата на пасаду прэзідэнта, палітвязня Андрэя Саннікава Ірына Халіп звярнулася ў Дэпартамент выканання пакарання. Яна хацела даведацца, што сталася прычынай пераводу мужа з Наваполацкай калоніі ў Бабруйск.

«Са мной размаўляў палкоўнік Ігар Котаў, намеснік начальніка аднаго з аддзелаў. Доўга мне казалі, што нічога не могуць сказаць, бо рашэнне прымалася кіраўніцтвам. Тым не менш, пасля тэлефоннага званка да гэтага кіраўніцтва Котаў паведаміў, што перавод адбыўся «ў сувязі са шматлікімі крытычнымі публікацыямі аб экалагічнай сітуацыі ў Наваполацкай калоніі», — паведаміла Ірына Халіп.

Журналістка задаецца пытаннем: «Калі вы прызнаяце праблемы, то чаму ў гэтай калоніі працягвае знаходзіцца 1500 чалавек?» Яна кажа, што не будзе змяншаць цікавасці да гэтай турмы і ў будучыні. Таксама Халіп паабяцалі, што вязням у Наваполацку дадуць магчымасць тэлефанаваць дадому ў вызначаны час. «Яны прызналі, што праблема з гэтым была. Маленькая, але перамога», — гаворыць Ірына.

26 верасня Андрэй Саннікаў увогуле знік. З віцебскага ізалятара яго вывезлі ў пятніцу, 23 верасня, але да калоніі ў Бабруйску ён не даехаў. Адвакатам асуджанага палітыка паведамілі, што яго адправілі ў бабруйскую калонію праз Гомель. І ў суботу Андрэй Саннікаў будзе там. Але ў панядзелак у калоніі паведамілі, што яго не прывозілі.

Этап у суботу быў, а Саннікава з ім не было. Пазней стала вядома, што палітык знаходзіцца ў следчым ізалятары ў Магілёве, а ў калонію яго давязуць на гэтым тыдні. У Магілёве Саннікава наведаў адвакат. Вязень праз яго перадаў, што знаходзіцца ў «прэс-хаце» — памяшканні, дзе трымаюць «штрафных» зняволеных. Апошнія могуць аказваць любы ціск на палітыка.

Лідар незарэгістраванага «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч пераведзены з горацкай калоніі ў Глыбокае. Перад гэтым палітвязень «транзітам» быў дастаўлены ў ізалятары ў Магілёў і Віцебск. У Горках Зміцер распачаў галадоўку ў знак пратэсту супраць «ненармальных» умоў утрымання. Невядома, ці скончыў ён галадаць пасля пераезду ў СІЗА.

Ёсць меркаванне, што Саннікава і Дашкевіча пераводзяць з калоніі ў калонію, каб іх памучаць перад вызваленнем.

**ЗП, КМ**

# Апошні суд за Плошчу

28 верасня, пасля месячнага перапынку, аднавіўся судовы працэс па справе так званых масавых беспарадкаў. На лаве падсудных — **Святаслаў Барановіч**.



SVABODA.ORG

Напярэдадні суда Святаслаў сказаў, што за гэты час ніякіх зменаў не адбылося. Маўляў, працэс не спынілі нават у святле апошніх падзей — выхаду амаль усіх палітвязняў па справе 19 снежня.

«Пакуль мяне трымаюць на «мушцы», — сказаў малады чалавек. — Але спадзяюся, што справу закрыюць. Хаця і там [у турме] людзі жывуць. Я з аптымізмам да гэтага стаўлюся. Кожны выбіраў сам. Захацеў выйсці на Плошчу — трапіў у турму...»

Не прапаноўвалі яму і напісаць прашэнне на імя Аляксандра Лукашэнкі, у якім прызнаў бы сваю віну. «Калі папросяць... Не хацелася б мне падпісваць такое прашэнне. Я ж нічога не зрабіў. Мне няма за што апраўдвацца. І будзе вялікай дурасцю, калі мяне пасадзяць усё-ткі».

Працэс над апошнім абвінавачаным за Плошчу пачаўся 29 жніўня. Суддзя змяніла толькі меру стрымання яму на падпіску аб нявыездзе і перанесла пасяджэнне на канец верасня. Святаславу прад’яўлена абвінавачванне па частцы 2 артыкула 293 КК «Удзел у масавых беспарадках» 19 снежня. Паводле версіі следства, малады чалавек адабраў у супрацоўнікаў міліцыі дубінку і нанёс ёй удары па шчытах. Абвінавачаны прызнае, што ўдарыў дубінкай па шчытах, але адмаўляе, што імкнуўся кагосьці біць, як і сам факт масавых беспарадкаў. Затрыманы ён быў 15 чэрвеня.

**Сяргей Макарэвіч**

# Анархісту Ваською пагражаюць чарговай справай за кратамі

**За непадпарадкаванне** патрабаванням адміністрацыі калоніі.

Пра гэта паведаміла жонка іншага асуджанага анархіста, Мікалая Дзядка, Валерыя Хоціна. Дзяўчына вярнулася з доўгатэрміновага спаткання з магілёўскай калоніі.

«Я пабачыла Яўгена Васьковіча — лысы, бледнатвары... — сказала Валерыя. — Ён сказаў, што ў яго ўсё добра, маўляў, учора, 13 верасня, выйшаў з ШІЗА. Пасміхаўся. Увогуле, ён амаль не выходзіць адтуль. Яму забаранілі спатканні з роднымі, перадачы, прадукты ён мае права купляць толькі на 35 тысяч на месяц. Мікола з астатнімі хлопцамі яму дапамагалі, перадавалі цыгарэты, ежу. Калі аднойчы да яго прыехалі сваякі на спатканне, ён быў у ізалятары. Спатканне не дазволілі, і нехта з адміністрацыі нечага нагаварыў сваякам, ад чаго яго бабулі потым стала дрэнна.

Калі выходзілі з зоны, ён крыкнуў, што яго «раскручваюць» на яшчэ адну справу па арт. 411 КК (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі калоніі)».

У лісце да маці Яўген паведаміў, што яго перавялі ў памяшканне камернага тыпу. Яго гэта задавальняе, бо мае магчымасць чытаць кнігі, пісаць. «Мама, прабач, але працаваць на іх я не буду!» — напісаў асуджаны анархіст.

Яўген Васьковіч быў асуджаны на сем гадоў турмы строгага рэжыму. Яго абвінавацілі ў падпале дзвярэй будынка КДБ у Бабруйску.

**КМ**

Напісаць Васьковічу можна на адрас: 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія № 15.

## Сцісла

### Бяляцкі знаёміцца з крымінальнай справай

Алесь Бяляцкі 23 верасня пачаў знаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы. Па словах праваабаронцы Уладзіміра Лабковіча, верагодна, што ўжо ў другой палове кастрычніка можа пачацца суд над Бяляцкім.

### Васілевіч і Мірзаянаў з’язджаюць на вучобу за мяжу

Былыя палітвязні Фёдар Мірзаянаў і Ілля Васілевіч заявілі, што збіраюцца з’ехаць за мяжу, каб працягнуць навучанне. Галоўная прычына пакінуць краіну — небяспека ў любы час зноў трапіць за краты. «Я не адчуваю ў гэтых умовах сябе вольным і ў бяспецы. У любы момант на любога чалавека могуць сфальшаваць справу і пасадзіць у турму», — заявіў Ілля Васілевіч. Абодва адзначылі, што вернуцца ў Беларусь, калі ў краіне зменіцца палітычны рэжым.

### Палажанка і Яроменак на сутках

Наста Палажанка і Уладзімір Яроменак асуджаны на 11 і 12 сутак адміністрацыйнага арышту адпаведна. Іх абвінавацілі ў парушэнні парадку правядзення і арганізацыі масавага мерапрыемства (ч.3. арт. 23.34 КаАП РБ). Маладыя людзі збіраліся 19 верасня вывесіць у Мінску некалькі нацыянальных сцягоў у гонар 20-годдзя прызнання бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня» дзяржаўнымі сімваламі Беларусі. На свабоду Палажанка выйдзе 30 верасня, Яроменак — 1 кастрычніка.

**КМ**

# Аўфвідэрзэйн, гер Штанге!

## Хто можа ўзначаліць зборную краіны па футболе?

Немец Бернд Штанге быў застырном нацыянальнай зборнай па футболе рэкордныя 4 гады. За гэты час каманда двойчы не выканала пастаўленую задачу — выхад на першынствы Еўропы і свету.

«Наша Ніва» прапануе свой рэйтынг спецыялістаў, якія могуць павесці за сабой каманду ў новым цыкле. Канечне, з разлікам, што на Алекса Фергюсана ці Жазэ Мурыньё разлічваць не выпадае.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Штанге з пастаўленымі задачамі не справіўся.

**10. Лотар Матэус.** Чаму б не памяняць немца на немца? Лотар Матэус — вялікі ў мінулым футбаліст, які выйграў амаль усе магчымыя тытулы. Праўда, як трэнеру яму шанцуе меней. Матэус калясіць па ўсім свеце: Аўстрыя, Сербія, Венгрыя, Бразілія, Ізраіль, Балгарыя. Магчыма, проста так і не знайшоў яшчэ сваёй каманды.

**9. Ігар Крывушэнка.** Ён быў адным з тых, хто закладваў сённяшнія поспехі БАТЭ. Барысаўская каманда трапіла ў рукі Крывушэнкі не ў лепшым стане. Першы год каманда заняла пятае месца, але потым двойчы станавілася чэмпіёнам. Потым Ігар Мікалаевіч някепска сябе зарэкамендаваў на працы ў Расіі.

**8. Аўрам Грант.** Ізраільскі спецыяліст пакуль без працы. У 2007 ён нечакана ўзначаліў зорны «Чэлсі» Рамана Абрамовіча. Пры Гранту лонданцы пачалі паказваць вельмі прывабны футбол, але ў кіраўніцтве клуба палічылі, што для «Чэлсі» Грант недастаткова зорны. Грант застаецца чалавекам простым, таму прапанова з Беларусі яго магла б зацікавіць.

**7. Сяргей Гурэнка.** Былы капітан і лідар зборнай Беларусі. Гурэнка пагуляў у добрых камандах і ў добрых трэнераў. Ён выдатна пачынаў кар'еру настаўніка ў мінскім «Дынама», але цяпер троху згубіўся ў руціне чэмпіянату краіны з жодзінскім «Тарпеда-БЕАЗ».

**6. Рой Кін.** Ірландзец бы дакладна навучыў нашых гульцоў радзіму любіць. Шмат гадоў Рой быў капітанам зорнага «Манчэстэра Юнайтэда». Кін быў любімчыкам заўзятараў за ягоную фантастычную працаздольнасць і аддачу гульні. У трэнерскай кар'еры Кіна былі «Сандэрленд» і «Іпсвіч». Добры плацдарм для працы са зборнай.

**Футбалісты любяць Кандрацьева.**

**5. Анатоль Байдачны.** Ён ужо трэніраваў нацыянальную каманду. Хвароба каманды Байдачнага была сугучнай з той, з якой сутыкаліся і Штанге з Малафеевым. Пры нядрэннай гульні ў цыкле ў вырашальны момант футбалісты давалі збой. Байдачны эксцэнтрычны, ён не лезе за словам у кішэню.

**4. Валерый Няпомняшчы.** Нядаўна расійскі спецыяліст стаў беспрацоўным пасля разрыву з сібірскай «Томью». Трэнер яшчэ савецкай загартоўкі, які папрацаваў у самых экзатычных краінах свету. Асабліва запомніўся па працы са зборнай Камеруна, дзе лідарам быў грозны Ражэ Міла. Нідзе ўзровень Няпомняшчага не падаў ніжэй за вызначаную планку.

**3. Віктар Ганчарэнка.** Залішнія прадстаўленні настаўніку БАТЭ не патрабуюцца. Ён быў самым маладым трэнерам, што выводзіў сваю каманду ў Лігу чэмпіёнаў. Ганчарэнка мае ўнікальны аналітычны розум, пры гэтым ён не спыняе сваю адукацыю. Толькі ці адпусціць БАТЭ Ганчарэнку ў зборную і ці трэба гэта самому настаўніку, якога, відаць, чакаюць больш прывабныя перспектывы.

**2. Міадраг Божавіч.** 43-гадовы чарнагорац заслужыў сабе славу на прасторах СНД. Паспяхова выступаў з пермскім «Амкарам» і «Масквой». Божавіч вольна размаўляе на многіх мовах. Ягоны рост 196 см, такі, каб наводзіць павагу на беларускіх футбалістаў. Божавіч працаваў з многімі зборнікамі, ды і да беларускіх рэалій доўга звыкацца яму не трэба будзе.

**1. Георгій Кандрацьеў.** Здаецца, гэты ўраджэнец вёскі Любінічы (Талачынскі раён) цалкам саспеў, каб узначаліць галоўную каманду краіны. Гэта Кандрацьеў даказаў па працы з моладзевай камандай. Кандрацьеў удумлівы і нешматслоўны, нават закрыты. «Маладзёжка» стаіць гарой за Пятровіча. Футбалісты яго любяць. Толькі вось у Кандрацьева наперадзе яшчэ Алімпіяда ў Лондане. Што пераважыць?

**Зміцер Панкавец**



Божавіч — трэнер высокага аўтарытэту.



Моладзь за Пятровіча гарой. Кандрацьеў — галоўны прэтэндэнт на пераемніка.



Рой Кін навучыў бы футбалістаў радзіму любіць.

**Каляндар гульняў** зборнай Беларусі да Чэмпіянату свету-2014. Задачу выхаду каманды на першынство ў Бразілію будзе вырашаць ужо, відаць, новы трэнер.

**2012**

7 верасня: Грузія — Беларусь.

11 верасня: Францыя — Беларусь.

12 кастрычніка: Беларусь — Іспанія.

16 кастрычніка: Беларусь — Грузія.

**2013**

7 чэрвеня: Фінляндыя — Беларусь.

11 чэрвеня: Беларусь — Фінляндыя.

10 верасня: Беларусь — Францыя.

11 кастрычніка: Іспанія — Беларусь.

# Суд над Канавалавым-Кавалёвым: праклятыя пытанні

Два тыдні працягваецца суд над падазраванымі ў здзяйсненні выбуху ў мінскім метро. Па меры агучвання афіцыйнага абвінавачвання і пратаколаў допытаў паўстае звязная карціна, намаляваная следствам. Аднак застаюцца і неадказаныя пытанні.

### Што за ўнікальнае рэчыва?

Старшыня КДБ Вадзім Зайцаў 13 красавіка, на другі дзень пасля тэракта, заявіў, што ў бомбе выкарыстоўваліся кампаненты ўнікальнай выбухоўкі, якая была ўжытая тэрарыстам 3 ліпеня 2008 года, «аналагаў якой не ведалі ні ў адной са спецслужб». З зачытаных пратаколаў допытаў Дзмітрыя Канавалава, якога вінавацяць непасрэдна ў вырабе выбухоўкі, вынікае, што бомба была вырабленая самым тыповым спосабам, прыкладна тым жа, якім іх вырабляюць дамарослыя тэрарысты ва ўсім свеце — з аміячнай салетры. Чаму тады Зайцаў называў выбухоўку ўнікальнай і невядомай спецслужбістам?

### Планавалі іншыя выбухі?

Старшыня КДБ Вадзім Зайцаў заяўляў таксама, што «мы чакалі суперпрафесіяналаў, але гэтыя выбухі здзейснілі, як выявілася, не надта прафесійна падрыхтаваныя людзі».

У той жа час Аляксандр Лукашэнка ў красавіку заявіў, што ў падазраванага знайшлі яшчэ тры выбухоўкі: «Як паказваюць праваахоўныя органы, заўтра было б горш, і мы знайшлі гэтае «горш», як мінімум, тры. Калі б яно здарылася, было б горш, чым у метро».

З пратаколаў жа допытаў Канавалава вынікае, што абвінавачаны меў намер зрабіць больш магутную выбухоўку, але не зрабіў. Працэс палічыў надта працаёмкім і дарагім. Ні пра якія іншыя запланаваныя выбухі не гаварылася на судзе.

Вядома, нестыкоўкі лёгка тлумачацца жаданнем службовых асоб адрапартавацца. Ці нават не адрапартавацца, а проста супакоіць людзей, даць грамадству хоць нейкую пэўнасць, зняць нервознасць, паказаць, што сілавыя структуры трымаюць сітуацыю пад кантролем у дні, калі віравалі чуткі.

### Хто адкажа за паляванні на ведзьмаў?

Але самыя галоўныя пытанні гэты суд не здольны ўзняць па вызначэнні.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Як так магло быць, што абвінавачаны доўгія гады арганізоўваў выбухі — прычым у гарачыя палітычныя моманты — і адначасова гэты неадукаваны ахламон заставаўся «нябачным» для шматлікіх беларускіх спецслужб?

І другое звязанае з ім пытанне. Пасля кожнага тэракту у краіне адбывалася паляванне на ведзьмаў. Праз турмы па справах выбухаў прайшлі дзясяткі актывістаў апазіцыі і сотні звычайных, ні ў чым не вінаватых людзей. Як так, што ніхто не панёс за гэта адказнасці? І тым больш ніхто не прынёс прабачэнняў.

**Сяргей Макарэвіч**

## Апошнюю забітую знайшлі ў тры ночы

Вольга Захаркова падчас допыту на працэсе Канавалава-Кавалёва заявіла, што яе «сястру знайшлі ў тры гадзіны ночы [12 красавіка]. Апошняй знайшлі. Выбухам яе выкінула на рэйкі. Па ёй цягнік праехаў... Папалам пераехала. У мяне ёсць прэтэнзіі да метрапалітэна. (...) Машыніст пытаўся, ці ехаць. Дыспетчар даў такую каманду. Навошта ён паехаў?», — цытуе В.Захаркову kp.by.

Гэты факт пярэчыць ранейшым заявам аб тым, што ўсе ахвяры тэракта былі вынесеныя з станцыі ў бліжэйшыя пасля выбуху гадзіны.

Не выключаем, што гісторыя з познім вынасам целаў спрычынілася і да блытаніны ў гісторыі Марыны Шубіч.

Нагадаем, што СМІ паведамілі, што параненую дзяўчыну знайшлі толькі позна ўвечары, такую інфармацыю распаўсюдзіла сяброўка Марыны. Пазней, аднак, бальніца засведчыла, што дзяўчына паступіла разам з іншымі параненымі.

За інфармацыю пра Шубіч прэтэнзіі былі, нагадаем, і да «Нашай Нівы».

**Сяргей Мікулевіч**

## Бацька пацярпелай Крутой затрыманы, бо выліў мачу на галаву галоўурачу

22 верасня суддзя Федарцоў зачытаў у судзе па тэрактах інфармацыю пра сітуацыю з Крутым.

Вечарам 20 верасня быў затрыманы Аляксандр Круты, які на судзе па справе аб тэракце ў метро прадстаўляе інтарэсы свaёй дачкі Інэсы, пацярпелай падчас выбуху 11 красавіка. Круты звярнуў увагу на сябе тым, што хадайнічаў пра перанос суда да часу адмены смяротнага пакарання і ўвядзення суда прысяжных. Фактычна, гэта было выказванне недаверу да суда і следства па справе.

Інэса Крутая 21 верасня сама прыйшла на пасяджэнне суда і меркавала звярнуцца да суддзі з заявай, каб запатрабаваць прыпыніць працэс да таго час, пакуль яе бацька не будзе зноў дапушчаны ў суд у якасці яе прадстаўніка. Сама Інэса Крутая наведваць суд не ў стане, бо атрымала сур'ёзныя траўмы падчас тэракта.

Аднак 21 верасня падаць заяву яна не паспела. А 22 верасня суддзя Федарцоў зачытаў інфармацыю пра сітуацыю з Крутым. Згодна з ім, 17 жніўня 2011 года [г.зн. месяц назад] Круты ва ўпраўленні аховы здароўя выліў мачу з двух паўлітровых слоікаў на галоўнага ўрача. У сувязі з гэтым заведзена крымінальная справа ў адносінах да Крутога за хуліганства. Справа заведзена 19 жніўня.

Сваякам Крутога стала вядома, што па накіраванні пракурора Аляксандр Круты адпраўлены ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр псіхічнага здароўя (Навінкі). Пра гэта сваякам паведамілі ў Маскоўскім РУУС сталіцы.

Аляксандра Крутога ў свой час асуджалі за «абразу Лукашэнкі».

Крымінальную справу паводле арт. 368 КК распачалі ў маі 2003 г. На той момант ён жыў у Нясвіжы, займаўся праваабарончай дзейнасцю. Пасля завядзення справы яго адпусцілі пад распіску. Ён з'ехаў у Мінск, дзе знаходзіўся да восені 2007 года. Ён быў ізноў затрыманы і змешчаны ў жодзінскае СІЗА.

24 студзеня 2008 года суд Нясвіжскага раёна прызнаў Аляксандра Крутога вінаватым у публічнай абразе Лукашэнкі. З прычыны адсутнасці вялікай пагрозы для грамадства яго вызвалілі ад адказнасці і спынілі справу. Аднак дамоў ён патрапіў не адразу.

У часе следства праводзілася судова-медыцынская экспертыза, якая выявіла ў Крутога параноідальную шызафрэнію. Замест вызвалення яго накіравалі на лячэнне ў рэспубліканскі псіхіятрычны шпіталь у Навінках.

У лютым 2008 года судовая калегія па крымінальных справах Мінскага абласнога суда адмяніла пастанову суда Нясвіжскага раёна і спыніла вытворчасць па справе Крутога.

У свой час Аляксандр Круты, фізік па адукацыі, працаваў на Міністэрства абароны, потым стаў прадпрымальнікам.

«Гэта бескампрамісны і валявы чалавек, меў вялікі архіў дакументаў, бо не прапускаў ніводнага выпадку парушэння правоў сваіх землякоў», — характарызаваў у 2007 годзе Крутога грамадскі актывіст з Нясвіжа Алесь Язвінскі.

**Кастусь Матушыч,**
**Сямён Печанко**

## Пацярпелы Саакян: **Такое ўражанне, што Канавалаў прыкрываецца легендай**

Самвэл Саакян быў у метро 11 красавіка, калі там адбыўся выбух. У выніку гэтага атрымаў баратраўму. Ён і да сёння канчаткова не выздаравеў. Але спраўна наведвае працэс Канавалава-Кавалёва. Самвэл падзяліўся сваімі назіраннямі.

**«НН»: Вы верыце, што абвінавачаныя маюць дачыненне да выбуху ў метро?**

**Самвэл Саакян:** Я мяркую, што Канавалаў занёс гэтую сумку. Толькі здаецца, што ён дзейнічаў не адзін. Кавалёў выпадкова тут можа быць. Але тое, што такое злачынства толькі Канавалаў здзейсніў, я не веру.

**«НН»: Якія ў Вас былі б пытанні да Канавалава, калі б ён пачаў даваць паказанні на судзе?**

**СС:** У мяне быў падрыхтаваны спіс з дваццаці пытанняў. Цяпер яму пагражае смяротнае пакаранне. Чалавек павінен выкарыстоўваць апошнюю магчымасць менавіта на судзе, калі на яго не аказваюць ціск, заявіць, чаму ён так зрабіў. А ён маўчыць.

У мяне выклікае вялікае пытанне тое, якую тэрміналогію ён выкарыстоўваў на допытах. Складваецца ўражанне, што ў яго ёсць нейкая легенда. Легенда, якой ён прыкрываецца, паўтараючы кожны раз. Хацелася б упэўніцца, што гэта ён вінаваты.

Я хадзіў знаёміцца з матэрыяламі справы. Калі я сказаў, што гэта парушэнне закона — адмова ў доступе да ўсіх матэрыялаў, што буду звяртацца ў кампетэнтныя органы, мне цынічна сказалі: звяртайся куды хочаш. Стала зразумела, што нічога мне не дадуць.

**«НН»: Колькі тамоў справы вы ўсё-ткі змаглі прагледзець?**

СС: Прыкладна дваццаць.

**«НН»: А колькі дзён далі на азнаямленне?**

**СС:** Здаецца, чатыры дні. Калі я быў у судзе, мне патлумачылі адмову тым, што ёсць іншыя пацярпелыя, якія таксама знаёмяцца са справай. Можна выказаць здагадку тады, што і яны павінны прысутнічаць на працэсе і задаваць пытанні. Але я ведаю толькі сябе і Аляксандра Крутога, хто з прысутных пацярпелых знаёміўся з матэрыяламі. Дзе астатнія?

**«НН»: Вы даволі актыўна паводзіце сябе на працэсе: задаяце пытанні, заяўляеце хадайніцтвы. Маеце юрыдычную адукацыю?**

**СС:** Я закончыў юрфак БДУ. Хоць і не пайшоў працаваць па спецыяльнасці, цяпер узгадваю Крымінальна-працэсуальны кодэкс.

**«НН»: А чым можыце патлумачыць пасіўнасць іншых пацярпелых, адсутнасць у іх інтарэсу да працэсу?**

**СС:** У нас у краіне пасіянарыяў мала. Каму лішнія праблемы патрэбныя?

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

# Крымінальнік напаў на дзяцей у садку

Аказалася, загадчыца наймала **былога забойцу** ў якасці дворніка.

Здарэнне ў мінскім садку ставіць пытанне пра неабходнасць аховы дашкольных установаў.

Раніцай 21 верасня на тэрыторыі дзіцячага садка №26 у Мінску з'явіўся моцна п'яны мужчына. Як паведамляе БелТА, 37-гадовы дзяцюк нібыта пачаў тузаць дзяцей, што гулялі на пляцоўцы. Калі ж выхавацелі заступіліся за дзяцей, мужчына выцягнуў з кішэні пнеўматычны пісталет і пачаў ім пагражаць.

Стала вядома, што ён тры гады адпрацаваў у гэтым жа садку, а ў пачатку гэтага года быў звольнены за злоўжыванне спіртным. Больш за тое, былы дворнік некалі быў асуджаны за забойства. На затрыманага заведзена крымінальная справа, за ягоны ўчынак яму пагражае да 7 год турмы. Затрыманы кажа, што нічога не памятае: ні як апынуўся на тэрыторыі садка, ні што там рабіў.

Загадчыца садка Ліліяна Стрэльская сцвярджае, што былы дворнік не збіваў дзяцей, а таму ніхто з іх не пацярпеў.

Інцыдэнты ў дзіцячых садках узнімаюць сур'ёзныя пытанні. Чаму, напрыклад, у садку працаваў былы крымінальнік? Фармальна такія асобы не могуць займацца педагагічнай дзейнасцю, але ім не забаронена працаваць у якасці тэхнічнага персаналу. Аднак працаўладкаванне ў дзіцячы садок асуджанага за забойства — грубая памылка. Ды што рабіць загадчыцам, калі заробкі такія малыя? Сярэдні заробак дворніка ў садку складае ад 500 тысяч у рэгіёнах і ад 600 тысяч у Мінску.

**СП**



**Каментар**

## Сволачы

Піша **Ірына Халіп**.

У дзіцячы садок №26 прыйшоў п'яны вырадак. Аказваецца, у гэтым садку ён раней і працаваў. Загадчыца Ліліяна Стрэльская пільнасці не праявіла.

Затое ў тым самым садку тая самая загадчыца 24 снежня праявіла незвычайную пільнасць і перакрыла ўсе выхады, каб майго сына не забралі з учэпістых рук дзяржавы бабуля і дзядуля.

Ды Бог з ёй, са Стрэльскай.

Колькі штыхоў 19 снежня ахоўвалі Дом урада? Кажуць, у цэнтры горада ў той вечар іх было каля васьмі тысяч. На іх ва ўлады грошы ёсць. А на тое, каб паставіць па ахоўніку ў кожны дзіцячы сад — не. І ніякія ўпраўленні адукацыі, міністэрствы і іншыя чыноўніцкія расаднікі, куды, дарэчы, проста так не зойдзеш, ні разу не зладзілі скандал з патрабаваннем выдзеліць бюджэтныя грошы на ахову дзіцячых садкоў.

**Паводле Charter97.org**

# Фанатам увалілі, а пасля аштрафавалі

**Інцыдэнт** здарыўся ў нядзелю ў Мінску на матчы «Дынама» і «Дняпра».

Каманды сустракаліся на стадыёне «Дынама-Юні», што ў Кунцаўшчыне.

У сектары гасцей успыхнула бойка, у справу ўмяшаўся спецназ. Пад гарачую руку пяцёра міліцыянтаў далі пытлю аднаму з фанатаў.

У Фрунзенскім РУУС карэспандэнту «НН» расказалі, што на матчы было затрымана сем фанатаў з Магілёва і два прыхільнікі «Дынама». Аднаго непаўналетняга заўзятара перадалі бацькам.

«Фанаты пачалі бойку паміж сабой, міліцыя вымушаная была ўмяшацца», — патлумачылі ў РУУС. На затрыманых склалі пратаколы паводле арт. 17.1 КаАП (дробнае хуліганства). Іх абвінавацілі ў парушэнні грамадскага парадку ў часе матча. У панядзелак адбыліся суды, адзін затрыманы атрымаў штраф 140 тысяч рублёў, астатнія па 70 тысяч.

Даваць ацэнку дзеянням спецназа ў РУУС адмовіліся, зазначыўшы, што не маюць да гэтага моманту непасрэднага дачынення.

Здарэнне выклікала рэзананс у заўзятарскім асяродку.

Адзін з відавочцаў сцвярджае, што гасцей пачалі дражніць гаспадары.

Нібыта каля фанацкага сектара магілёўцаў праходзіла група заўзятараў мінскага клуба. Спыніліся насупраць гасцявога сектара і пачалі выкрыкваць «Толькі «Дынама!» У сутычку фанатаў умяшаўся спецназ. Відавочца піша, што, каб суцішыць жарсці, міліцыянты білі жорстка: «і па галаве, і па нырках».

На форумах паўтараецца думка, што міліцыя свядома ці не, але справакавала бойку, дапусціўшы да сектара гасцей фанатаў «Дынама».

Прадстаўнік «Дняпра» паведаміў «НН», што пакуль не мае ніякай інфармацыі пра затрыманых. Ён падкрэсліў, што клуб калі і будзе ладзіць нейкую праверку, то толькі пасля з'яўлення афіцыйнай інфармацыі з кампетэнтных органаў. Прэс-сакратар магілёўскага клуба патлумачыў таксама, што на футбольных матчах фанаты клубаў павінны быць ізаляваныя, а міліцыя мусіць забяспечыць ахову гасцей. «Прынамсі, на нашым стадыёне «Спартак» так робіцца».

У прэс-службе «Дынама» паставілі пад сумнеў інфармацыю, размешчаную на футбольных сайтах. Па словах прэс-сакратара клуба, у іх няма інфармацыі пра затрыманых дынамаўскіх фанатаў, а таму яны не займаюцца гэтым пытаннем.

Нядзельны інцыдэнт на стадыёне ў Кунцаўшчыне нагадвае выпадак у Бабруйску, што здарыўся 27 мая гэтага года. Тады сустракаліся мясцовая «Белшына» і ўсё тое ж мінскае «Дынама». Пасля забітага гола дынамаўцы падбеглі да трыбуны сваіх фанатаў, а міліцыянты ў гэты момант пачалі адганяць фанатаў ад краю поля. Адзін са спецназаўцаў распыліў балон з газам, патрапіўшы пры гэтым у піцігадовага хлопчыка, які прыйшоў на футбол з бацькам. Унутраная праверка не выявіла ў дзеяннях прапаршчыка Уладзіміра Рэцікава парушэнняў і перавышэння паўнамоцтваў. Аднак яго камандзір папрасіў у бацькоў хлопчыка прабачэння.

**Сямён Печанко**

# Школьнікі атрымалі вялікія тэрміны за забойства бамжа

Гэта другі выпадак **падлеткавай жорсткасці** ў дачыненні да беспрытульных за гэты год.

Уступіў у сілу вердыкт Мінскага гарадскога суда, які асудзіў двух мінскіх школьнікаў за жорсткае забойства 38-гадовага беспрытульнага мужчыны. Здарылася гэта ўвечары 25 жніўня 2010 г. Школьнікі былі нецвярозыя. Сваю ахвяру збівалі метадычна і надзвычай жорстка.

Расследаванне выявіла, што 16-гадовыя садысты ўсведамлялі, што робяць. Больш за тое, збіўшы небараку да непрытомнасці, яны зрабілі перапынак, каб потым давяршыць справу. Адзін з падлеткаў катаваў мужчыну агнём запальнічкі. Ён атрымаў 11 гадоў адбывання пакарання ў дзіцячай калоніі. Другі падлетак атрымаў 9 гадоў. Гэтая жудасная гісторыя нагадвае пра выпадак у 2009 годзе. Тады, у навагоднюю ноч, два мінскія дзевяцікласнікі да смерці збілі рукамі і нагамі 34-гадовую бамжыху. Забойцы атрымалі 14 і 15 гадоў турмы.

А самы свежы прыклад падлеткавай жорсткасці ў дачыненні да беспрытульных быў зафіксаваны ў ліпені гэтага года. Па падазрэнні ў забойстве беспрытульных мужчыны і жанчыны былі затрыманыя два 14-гадовыя падлеткі і 20-гадовы малады чалавек.

**СП**

**Сцісла**

**У пінскай школе адбыўся выкід хлору**

Вартаўнік і два настаўнікі адной з пінскіх школаў вырашылі разабраць вентыль балона з хлёркай. Балон прызначаўся для абеззаражання вады ў басейне. Адбыўся выкід хлору, у выніку чаго пацярпеў вартаўнік. Са школы былі эвакуяваныя 105 чалавек. Пажар забраў жыцці дзвюх дзяўчынак і іх бацькоў. Адной дзяўчынцы не споўнілася і года, другой было 5. Інцыдэнт адбыўся ў вёсцы Галубіца ў нядзелю ўвечары.

**Начная пагоня**

У ноч на 24 верасня ў Гродне пяць аўто ДПС ганяліся за «Лэндроверам», кіроўца якога не спыніўся на патрабаванне міліцыі. Аўто парушальніка прыцягнула ўвагу тым, што рухалася па вуліцах горада з выключанымі фарамі. Кіроўца «Лэндровера» неаднаразова стварыў небяспечныя сітуацыі і ўрэшце ягонае аўто ўрэзалася ў «Сітраэн». Але спыніла яго не гэта. На праспекце Кляцкова дарогу парушальніку перагарадзілі палівачнай машынай, ззаду яго заблакавалі патрульныя аўтамабілі.

**Экіпаж быў п'яны**

У Расіі, у Авачынскай бухце, атамная падлодка сутыкнулася з сейнерам. Стратэгічная атамная падводная лодка Ціхаакіянскага флоту «Святы Георгій Пераможца» атрымала пашкоджанні лёгкага корпуса. У аварыі вінаваты экіпаж сейнера, члены якога нібыта былі моцна п'яныя.

**СП; БелТА**

# Забіў за 100 расійскіх рублёў

Трагедыя здарылася **на платформе вакзала** ў Віцебску.

Па інфармацыі, атрыманай ад супрацоўнікаў вакзала, канфлікт паміж ахвярай і забойцам, маладым хлопцам адбыўся з-за 100 расійскіх рублёў. Маладзён ударыў суперніка па галаве, той упаў. Нападнік пастаяў над чалавекам, а потым выклікаў таксоўку і з'ехаў. Міліцыянты, якія з'явіліся на месцы здарэння, доўга чакалі «хуткую». Пацярпеламу пачалі аказваць дапамогу дзяжурны медык з вакзала і добраахвотнікі з ліку пасажыраў. Аднак марна — мужчына памёр.

**«Народныя навіны Віцебска»**

# Лось стаў прычынай аварыі ў Мінску



Жывёліну адлавілі, **падлячылі і выпусцілі** ў лес.

22 верасня на праспекце Пераможцаў у Мінску пад колы аўто трапіў лось. Уцякаючы з праспекта, лось трапіў у пастку на тэрыторыі гаражоў на вуліцы Ціміразева. Супрацоўнікі МНС і міліцыі адлавілі жывёліну і адвезлі яе ў мінскі заапарк. Там лася агледзеў ветэрынар, які аказаў яму дапамогу. Потым сахатага адвезлі за горад і выпусцілі ў лесе.

**АГ**

# Няпросты Гілевіч



30 верасня Народны паэт **святкуе 80-годдзе**.

У літаратуры Ніл Гілевіч 65 гадоў — першыя яго вершы з'явіліся ў друку ў 1946-м. Многія моманты біяграфіі аўтара першага беларускага рамана ў вершах самі сабой вартыя рамана — ад змены «савецкага» імя Нінел («Ленін» наадварот) на гучнае і кароткае Ніл да складання культавага «Сказа пра Лысую гару» і дваццацігадовага маўчання пра яго. Ад аўтарства хіта «Вы шуміце, бярозы» да сённяшніх смелых публіцыстычных вершаў. Ад дзяржаўных узнагародаў да негалоснай забароны...

Сімвалічна, што юбілей Гілевіча супаў з юбілеем Незалежнасці, да ўсталявання якой і ён прыклаўся. «У Вярхоўным Савеце Ніл Сымонавіч узначальваў Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, — узгадвае Лявон Баршчэўскі, сябра Апазіцыі БНФ у ВС XII склікання. — Яго паважала партыйная наменклатура, і гэта давала магчымасць рухаць беларусізацыю. Гэта яго заслуга ў тым, што ўдалося ў пачатку 90-х хутка перавесці першыя класы на беларускую мову». Любоў да роднага краю —вызначальная характарыстыка паэзіі Гілевіча — ці лірыка гэта, ці публіцыстыка.

«Гэта простая, спеўная паэзія, агульназразумелая, якую не трэба расшыфроўваць, — кажа Вераніка Кушнярэвіч, загадчыца кафедрай беларускай мовы і літаратуры Ліцэя БДУ. — Ключавыя радкі Гілевіча — хрэстаматыйныя:

Мы — тройчы дзеці ў вечным
крузе:
Мы — дзеці роднае сям 'і,
І— дзеці Маці-Беларусі,
І — дзеці Матухны-Зямлі.

І ўжо народныя:

Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы,
Калышыце, люляйце свой
напеў векавы,
А я лягу-прылягу край гасцінца старога
На духмяным пракосе
недаспелай травы.

«Да Ніла Гілевіча ніхто не звяртаўся да рамана ў вершах, — кажа паэт і літаратуразнаўца Віктар Жыбуль. — У 1940-я быў раман Змітрака Астапенкі, аднак гэта, хутчэй, паэма. «Родныя дзеці» — унікальны раман для беларускай літаратуры, не ведаю, ці будуць калі-небудзь яшчэ падобныя творы».

Унікальнае валоданне словам, эрудыцыя, тонкае адчуванне стылю дазваляе Гілевічу ствараць такія разнапланавыя рэчы: ад вершаванага рамана да народных песняў і магутнай, знішчальнай публіцыстыкі. Як не згадаць класічнае:

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі, наеўшыся ў адвал,
Сёй-той прыкінуў, што «панчоха» —
Зусім не кепскі ідэал.

...Калі ў кампаніі парою
Не зразумець было, хоць плач —
Хто лезе чокацца з табою:
Ці лепшы сябар, ці стукач.

**Анатоль Ярмоленка: Галоўнымі радкамі Гілевіча лічу «І усё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі».**

«Галоўная заслуга Гілевіча ў тым, што ён ёсць, ён піша, і мы можам спяваць ягоныя песні, — кажа саліст «Сяброў» Анатоль Ярмоленка, выканаўца суперхіта 1980-х «Вы шуміце, бярозы» на словы Ніла Сымонавіча. — Я зычу спадару Гілевічу здароўя, каб у яго атрымалася шмат новых твораў, якія ў нас будуць вывучаць, а мы з задавальненнем будзем спяваць песні на яго вершы». Галоўнымі радкамі Гілевіча спявак лічыць «І усё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі»:

... Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!..

Шлях да Беларусі, пабачаны паэтам у 1992-м, нібы ілюструе дзень сённяшні. Пераадоленне сумневаў, пераадоленне страху — лейтматыў яго паэзіі сёння. Сучасныя вершы — гаркава-іранічныя. Але і лекі бываюць горкімі.

Так, адгукнуўся патрыярх беларускай паэзіі і на маўклівыя акцыі пратэсту, дакладна схапіўшы іх настрой:

І.
Во хітруга!
Не б'е ў барабан.
Не пяе,
Не крычыць.
А стаіць і маўчыць. Як нямы!
Вось у нас і напруга.
Каб ён проста маўчаў —
Дык жа не!
Ён пра нешта маўчыць!
А пра што?
А пра што ён маўчыць?
Прызнавайся, хітруга!
ІІ.
О народ беларускі!
Ты так красамоўна маўчыш,
Што маўчанне тваё
Ім страшней
За бунтоўныя крыкі.
Не, не доўга ўжо несці табе
Свой пакутніцкі крыж.
Ты — не раб.
Ты — вялікі.
Ва ўсім.
І ў маўчанні вялікі.

**Юрась Ускоў, Сяргей Мікулевіч**

# Някляеў і нядрэнныя ў цэлым кадэбісты

У Маскве ставяць **п'есу пра хатні арышт** Уладзіміра Някляева «Двое ў тваім доме».

На фестывалі «Любімаўка» незалежны маскоўскі тэатр «Театр.doc» прэзентаваў фрагменты п'есы «Двое ў тваім доме», якая распавядае пра хатні арышт экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Уладзіміра Някляева.

Асноўная і самая цікавая лінія спектакля — размовы двух супрацоўнікаў КДБ, якія жывуць у доме Някляева.

Сам Някляеў п'есу не чытаў і фрагменты не бачыў. «Як жа я мог адправіцца ў Маскву, калі мяне не пускаюць нават у Ратамку?» — кажа Някляеў.

«Наша Ніва» паразмаўляла з аўтаркай п'есы Аленай Грэмінай.

**«Наша Ніва»: Якім чынам збіраўся матэрыял для п'есы?**

**Алена Грэміна:** Летам мы групай прыехалі ў Мінск і размаўлялі з многімі людзьмі — са спадаром Някляевым і ягонай жонкай, з прадстаўнікамі апазіцыі і прыхільнікамі дзейнай улады. На аснове гэтага і была пабудаваная п'еса. Фрагменты мы паказалі на фестывалі «Любімаўка», пасля было абмеркаванне. Рэакцыя гледачоў была вельмі станоўчай.

**«НН»: Чаму вас зацікавіў менавіта гэты сюжэт?**

**АГ:** Нам падаецца цікавай тэма таго, як чалавек можа ахвяраваць уласным камфортам, як складаюцца яго стасункі з чужымі людзьмі, якія ўвесь час за ім сочаць. Пойдзе ён з імі на канфлікт, ці гэта будзе пэўная супраца? Тэма ўніверсальная — сучасная цывілізацыя вучыць нас у складаных сітуацыях не ісці на канфлікт з тэрорам, а па магчымасці захоўваць нейтральныя стасункі. Што ў Расіі, што ў Еўропе, што ў Беларусі.

**«НН»: Прадстаўнікі КДБ у п'есе не з'яўляюцца «адмоўнымі» персанажамі?**

**АГ:** Гэта кожны з гледачоў вырашае сам. Мы ўпэўненыя, што некаторыя людзі, якія вымушаны выконваць самыя жахлівыя функцыі, самі па сабе могуць быць ніякімі не злодзеямі. Яны проста вымушаны займацца тым, чым займаюцца — выконваць дзяржаўную функцыю.

**«НН»: Калі адбудзецца прэм'ера «Дваіх у тваім доме»?**

**АГ:** На тэатральным фестывалі Baltic Circle ў лістападзе. Да прэм'еры я расказваць сюжэт не магу.

**«НН»: Сам Уладзімір Някляеў п'есы не чытаў. Як лічыце, наколькі верагодна паставіць п'есу ў Беларусі?**

**АГ:** Мы з вялікім задавальненнем прывезлі б спектакль у Мінск, зробім для гэтага ўсё магчымае. Мы ж не ведаем, што адбудзецца заўтра — можа, Беларусь у лістападзе будзе дэмакратычнай краінай.

**Алесь Сабаленка**

# На дзіцячае «Еўрабачанне» адправіцца Лідзія Заблоцкая

23 верасня ў Мінску прайшоў нацыянальны адбор на дзіцячае «Еўрабачанне-2011». Тыя, хто сачыў за глядацкім галасаваннем, заўважылі, што сёлета абранне пераможцы выклікала пэўныя жарсці.

У выніку перамагла Лідзія Заблоцкая з Магілёва, што выканала песню «Анёлы дабра». Прыгожы, павольны патэнцыйны хіт, створаны па тых крытэрах, якія ў нас асабліва любяць — няспешныя мажорныя пераходы з вакальнымі пад'ёмамі.

З мінусаў музычнага плана — ніводная з песень не мела ні грама беларускасці, хаця ў мінулыя гады беларускамоўныя выканаўцы трапляліся.

У адрозненне ад «дарослага» «Еўрабачання», на дзіцячым беларусы паставілі рэкорд паспяховасці: двойчы бралі «золата» (Ксенія Сітнік у 2005-м і Аляксей Жыгалковіч у 2007-м) і адзін раз срэбра (Андрэй Кунец у 2006-м). Таксама адбор на «Еўрабачанне» выявіў талент Юры Дземідовіча. Хоць ён са сваім псіхадэлічным «Чароўным трусікам» і не ўзяў першага месца, але займеў вялізную папулярнасць у інтэрнэце. Цяпер яго канцэртны ганарар — $500.

Сітнік і Кунец атрымалі па двухпакаёўцы ў цэнтры Мінска. Ці пашанцуе так Лідзіі Заблоцкай — пабачым 3 снежня, калі ў Ерэване пройдзе фінал «Дзіцячага Еўрабачання».

**ЮУ**

## Сцісла

### «Мастацкая літаратура» прыпісала Жылку верш Коласа

Літаратуразнаўца Міхась Скобла звярнуў увагу на тое, што хрэстаматыйны верш Якуба Коласа «Беларускаму люду», напісаны з нагоды Рыжскай мірнай дамовы і падзелу Беларусі ў 1921 годзе, змешчаны ў зборніку Уладзіміра Жылкі «Матылі» (2009). Пры пільнейшай зверцы надрукаваных «Мастацкай літаратурай» вершаў з арыгіналамі даследчык выявіў 575 «брутальных умяшанняў у аўтарскі тэкст». «Пачаткоўцаў у рэдакцыях правяць больш ашчадна, чым гэта было зроблена з Уладзімірам Жылкам у дзяржаўным выдавецтве!» — падсумоўвае М.Скобла.

### На Вілейшчыне знайшлі сляды першабытных людзей

Раскопкі ладзіла археалагічная экспедыцыя на чале са знакамітым Міхасём Чарняўскім. Крамянёвыя прылады каменнага веку знайшлі каля вёскі Цынцавічы на паўночным ўзбярэжжы возера Вула. Мяркуецца, што там было паселішча на палях.

### Цэзарыя Эвара сышла на пенсію

Легендарная спявачка з Каба-Вердэ абвясціла пра завяршэнне музычнай кар'еры. Нядаўна 70-гадовая выканаўца прыбыла ў Парыж, каб даць серыю канцэртаў. Аднак Эвара была настолькі слабая, што ў выніку прыняла рашэнне адмяніць усе канцэрты і спыніць заняткі музыкай. На шчасце, мы паспелі яе пачуць: 11 сакавіка 2011 года Цэзарыя спявала ў Мінску, прэзентуючы альбом Nha Sentimento.

### R.E.M. спыняе існаванне

З каментароў удзельнікаў славутага рок-гурта — Майкла Стайпа, Майка Мілза і Пітэра Бака — бачна, што паміж імі няма ніякіх канфліктаў, аднак яны вырашылі, што варта сысці са сцэны своечасова. R.E.M. праіснаваў 31 год.

**СМ**

# «На бульбу» выгналі 11-гадовых дзяцей

«Гэта вёска. **Тут так было, і так будзе**», — кажуць настаўнікі.



Вучні Туркоўскай сярэдняй школы Бабруйскага раёна вымушаны прапускаць заняткі праз уборку бульбы. Відаць, у СПК «Калгас імя Аляксандра Неўскага» настолькі нестае працоўных рук, што да працы на полі прыцягваюць нават шасціклашак, якім па 11—12 гадоў.

Мы звярнуліся да старшыні вышэйназванага СПК, Маліноўскага Васіля Уладзіміравіча. «Не хочаце — не адпраўляйце дзяцей, ніхто не прымушае вашага сына працаваць. Але ёсць распараджэнне губернатара, каб школы дапамагалі гаспадаркам падчас уборкі бульбы».

На пытанне, ці заплацяць штосьці дзецям, старшыня адказаў: «Натуральна. Колькі заробяць, столькі заплацім. Расцэнім, падзелім на ўсіх дзяцей. Кожны раз плацім».

Вось што мы пачулі ад в. а. начальніка аддзела адукацыі Бабруйскага райвыканкама Аліфяровіч Алы Мікалаеўны: «У нашай праграме таксама прадугледжана грамадскакарысная праца. Ёсць пастанова Савета Міністраў пра тое, што дзеці могуць, пачынаючы з 14 гадоў, працаваць на працягу тыдня. Для гэтага ў класным журнале адведзена старонка. Мы нічога не парушаем».

**Так, гэта парушэнне закона. Але ж калгас дасць нам бульбы.**

А наконт працы дзяцей, якім менш за 14 гадоў, чыноўніца адказала: «Усё роўна ж у нас ёсць практыка. Дзеці ж павінны таксама крыху папрацаваць — гэта ж працоўнае выхаванне. Ды бацькам гэта трэба яшчэ больш, чым нам. Выхаванне мае шмат аспектаў».

«Мы ўсе працавалі. Я думаю, што і вы ў свой час таксама. Я вучылася ў гарадской школе, і мы заўсёды хадзілі ў саўгас «Васілевічы» дапамагаць. І ніхто ніколі не ставіў такія пытанні. Давайце ставіцца да гэтага неяк з разуменнем».

На пытанне «што бы вы абралі — вучэбныя заняткі ці «бульбу», большасць вучняў адказвала: заняткі. Праўда, былі і тыя, хто адказваў: а мне ўсё адно.

У настаўнікаў гэтай школы свая «праўда»: «Гэта вёска. Тут так было, і так будзе. І ўчора, і сення, і заўтра. Так, гэта парушэнне закона, але ж калгас дасць нам на зіму бульбы. І дзецям штосьці заплаціць. Тым больш што яны бясплатна абедаюць у школе».

**Аксана Рудовіч**

## Ад Рэдактара

Бясплатныя абеды дзецям аплачваюцца з падаткаў, якімі іхнія бацькі фінансуюць дзяржаву. А выкарыстанне дзіцячай працы — фактычна, прымусовай — забаронена міжнароднымі канвенцыямі, якія падпісала Беларусь.

У гэтай сітуацыі на палях — як у люстэрку, сітуацыя ў краіне. І стан справаў у эканоміцы, і стан розумаў, калі людзі прыцярпеліся да ненармальнага.

Я сам бацька і сам лічу, што прывучэнне дзяцей да працы дае ім больш, чым зубрэнне. І прымушаю іх працаваць і ў хаце, і ў школе, і ў дзядоў на агародзе (мая васьмігадовая дачка і дзесяцігадовы сын капалі тую самую бульбу перад 1 верасня). Але ведаю і іншае. Праца не можа быць у навучальны час. Непедагагічна прывучаць дзяцей да таго, што ёсць нешта важнейшае за вучобу. Праца замест вучобы закладае ім у галаву думку, што партай можна і грэбаваць.

Па-другое, няможна прывучаць дзяцей да рабскай працы. Г.зн. прымусовай працы на дзяржаву, якая аплачваецца мізэрна. Няма нічога больш разбуральнага для грамадства, чым калі ў грамадзяніне выхоўваецца раб. Гэтая рабскасць будзе руйнаваць усё. Можаце намаляваць 20-працэнтны рост ВУП, але рабы ўсё ператвораць у разбітае карыта.

**Андрэй Дынько**

## Постфактум

Як паведамілі нашай газеце настаўнікі з Бабруйскага раёна, калі вярстаўся нумар, шасці- і сямікласнікаў на «бульбу» адпраўляць перасталі. Цяпер у калгасе працуюць толькі вучні старэйшых класаў. А меншыя застаюцца на занятках у школе. Як і належыць, згодна з заканадаўствам.

Гэта стала вынікам публікацыі дадзенага артыкула на сайце «Нашай Нівы». Ён выклікаў вялізны розгалас і дыскусію: не ўсе пагадзіліся з высновамі Рэдакцыі. Чытачы з усёй краіны даслалі 103 каментары.

# Беларуская глыбіня. **Ластаўкі ў стрэсе**

Піша **Павал Севярынец.**

*І птушка знаходзіць сабе жытло,*
*і ластаўка гняздо сабе, дзе пакласці птушанят сваіх,*
*каля алтароў Тваіх,*
*Госпадзе сіл,*
*Цару мой і Божа мой!*
*Псалом 83:4*

О, гэта праца — падсобным рабочым у Вялікай канцэртнай зале ластаўчынага ціўкання імя Міхася Забэйды-Суміцкага!

Былы ангар савецкай вайсковай тэхнікі, а цяпер склад аўтазапчастак у Купліне аблюбавалі ластаўкі. Насамрэч гэта першае, на што звяртаеш увагу: па-над гасподай цяжкага, зубчастага, пачварна перакручанага, ашчэранага мёртвага жалеззя — імпэтныя роспісы і ціўканне дзясяткаў ластавак. Прыслухаешся — філармонія. Пад дахам — гнёзды, гнёзды, гнёзды. Выходзіш са склада — і літаральна з-за вуха куляй выстрэльвае бліскучая птушка, і слых узлятае ў нябёсы: што-што?..

Хіба ж можа быць інакш на радзіме найвялікшага беларускага опернага тэнара, раскручанага для сучаснасці ўнікальным дыскам народных спеваў «Ластаўкі ў стрэсе»? Там, дзе табе наканавана адбываць два гады ў жалезабетонным амфітэатры, збудаваным для рову савецкіх танкаў, а цяпер поўным пяшчотнага посвісту, ды яшчэ побач з інжынерам-аднавяскоўцам і цёзкам Вялікага Міхася? Ягоны бацька бачыў жывога Суміцкага і дагэтуль напявае ягоныя арыі.

Чаму мне пашчасціла трапіць менавіта сюды? Большасць «хімікаў» працуе ў Пружанах і навакольных калгасах. Пешкі, калі найкарацейшым шляхам, з каменды да горада 40 хвілінаў. Падпісваеш адмысловы «маршрут руху асуджанага», дзе пазначаецца, па якіх вуліцах трэба перамяшчацца.

Найперш — да дырэктара Палацыка, пружанскага краязнаўчага музея, маладога Юрыя Зялевіча. Бяседа прыязная, але кароткая: яму, вядома, адкуль трэба ўжо патэлефанавалі. Цэнтральная бібліятэка з партрэтамі славутых беларусаў у фае: Саюз беларускіх пісьменнікаў і кніжкі гэта, канечне, добра, але, выбачайце, вакансіяў няма (і ў вачах у кіраўнічкі адчайнае: «вы ж разумееце...»).

Разам з пчаляром Міколам Папекам заходзім у «Раённыя будні» (так паэтычна называецца галоўная газета сённяшняй Пружаншчыны): калі будзеце нешта пісаць без палітыкі — прыносьце, але... Маючы на ўсё пра ўсё тры гадзіны часу, лётаеш па тых канторах, толькі ластаўкі ціўкаюць увушшу. Грузчыкам у краму — о, нам непітушчыя трэба, бяруць, бяруць! — але ўжо назаўтра робіцца ясна, што «кадры рашаюць усё»: э-э, выбачайце, не можам. Ды хоць дворнікам, падмятаў жа пісьменнік Платонаў вуліцы — не-не-не, гэта нейкая вулічная акцыя атрымліваецца!

Горад Пружаны для палітычнага ссыльнага зачынены: кастрычніцкая ж рэвалюцыя неўзабаве. Карацей, ластаўкі ў стрэсе.

Актывісты дэмакратычнага руху ў глыбінцы грукаюцца ў дзверы працадаўцаў гадамі і чуюць у лепшым выпадку: ізвініце, мы ўсё з вамі панімаем, нооо...

Няхай. Дамаўляемся з Тайсам, паўднёваафрыканскім пратэстанцкім місіянерам, што побач, у тым жа былым вайсковым гарадку разводзіць авечкі ды трымае кавярню «Афрыка». Пастухом, як Давід, ды яшчэ ў хрысціяніна... Тэма біблейская — чаму б не.

Але назаўтра з самага ранку — выклік у дзяжурку і загад: прыбыць на працу ў фермерскую гаспадарку «Бардо», у 300 метрах ад каменды. «Бардо», арандуючы былыя ангары, вырошчвае бульбу, бычкоў і гандлюе запчасткамі. Сховішчы, склады, майстэрні і — о, цуд! — Вялікая канцэртная зала імя Забэйды-Суміцкага.

У Вялікую канцэртную залу ўвесь час наведваюцца слухачы: дырэктары, інжынеры, кіроўцы з гаспадарак усяго раёна. Пружанскі райаграсэрвіс, пракаповіцкае «Отечество», фермер-місіянер Тайс, Аранчыцкая птушкафабрыка... Апошнім часам меламанаў усё больш — грошай усё менш, а склад «Бардо» можа выпісаць матэрыяльныя каштоўнасці паводле безнаяўнага разліку ці ў доўг.

«Як жа ён дастаў!» — скрозь зубы, пад ластаўчын пошчак, падсвістваюць дырэктары. «Калі ўжо, калі?!» — ціўкаюць і ўзводзяць вочы да ластаўчыных гнёздаў прыватнікі.

Склад аўтазапчастак — памерам з добры супермаркет. Падшыпнікі, дэталі МАЗаў ды трактараў «Беларус», сельгастэхнікі; гума, балты ды гайкі, фільтры ды фарба — аж да шуфляў і звонкіх гаечных ключоў. Пакуль пакупнікі слухаюць ластавак, мая справа — знайсці дэталь, аформіць паперы, выгрузіць ды падпісаць новыя порцыі халоднага жалеззя і раскласці яго так, каб ластаўчын свіст зрабіўся яшчэ больш пранізлівым.

**«Як жа ён дастаў!» — скрозь зубы, пад ластаўчын пошчак, падсвістваюць дырэктары.**



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Вось, значыць, дзеля чаго ў «амерыканцы» давялося сядзець з буйным прадпрымальнікам, што марыў разгарнуць на мяжы з Беларуссю еўрапейскі аўтасэрвіс з продажам запчастак, дырэктарам фірмы, спецыялізаванай на метале, ды галоўным інжынерам Мінскага трактарнага (ён да драбніцаў распавядаў тэхналагічны працэс, трэба ж было слухаць!)...

Курэй у Пружанах апошнім часам не дастаць. Кладаўшчык Леанідавіч летуценна аглядае дах:

— Ластаўка — істота Божая, грэх кранаць. А вось голуб, хоць і птушка міру, але часам бралі тут паветраную стрэльбу, білі ды ў бытоўцы гатавалі. Ох і смачна!

Ластаўкі радочкам, нотамі ля скрыпічнага ключа, усаджваюцца на лініі дроту і расшыфроўваюць тэлефонныя паведамленні шалёным цёхканнем.

Крызіс, крызіс, кошты, курс рубля... Не свісці, грошай не будзе!

Але што ім, насельнікам неба, тыя рублі.

Насамрэч глядзяць яны на сумятлівых, спалоханых, раздражнёных людзей згары, са шкадаваннем — і гэтак жа звонка і пранізліва, як і сто гадоў таму, у часы Забэйды-Суміцкага, з беларускай глыбіні славяць Госпада Бога.

*Куплін*

# «Не асуджайце тых, хто напісаў прашэнне...»

**Яна падпісваецца ў абарону беларускіх палітвязняў, бо і сама прайшла праз несправядлівы суд. Яна — вядомая савецкая дысідэнтка і паэтка, чые вершы адзначалі Ахматава і Бродскі. У верасні Мінск наведала Наталля Гарбанеўская.**



Яна была ў ліку тых, хто падпісваў звароты аб вызваленні Аляксандра Фядуты і Уладзіміра Някляева, калі яны знаходзіліся за кратамі. Падтрымлівала беларускіх галадоўнікаў у 2006-м. Яна стараецца сачыць за сітуацыяй у нашай краіне. Вось і адзін з апошніх допісаў у яе блогу — гэта перадрук «Інтэрв'ю з мужам у пакоі доўгатэрміновых спатканняў» Ірыны Халіп.

Наталля Гарбанеўская і праз дваццаць гадоў пасля развалу Савецкага Саюза застаецца нерэабілітаванай. Яна заклікае ні ў якім разе не асуджаць тых беларускіх палітвязняў, хто напісаў прашэнне аб памілаванні.

«Я добра памятаю, як вызвалялі палітвязняў у Савецкім Саюзе ў 1987 годзе. Так званае «гарбачоўскае вызваленне». Ад іх усіх патрабавалі пісаць прашэнні. І першымі выпусцілі тых, хто напісаў. І засталіся тыя, хто адмовіўся. А пасля пачалі выпускаць тых, хто адмовіўся.

Хто напісаў гэта прашэнне Лукашэнку — яму самому ад гэтага пакутаваць. І мы не маем права асуджаць. Гэта іх, а не наша праблема. Затое хто выйдзе, адмовіўшыся пісаць, выйдзе, як гаварылася ў савецкія часы, на свабоду з чыстым сумленнем».

## На дэманстрацыю з немаўлём

Прозвішча Наталлі Гарбанеўскай абляцела многія заходнія газеты ў жніўні 1968 года. Тады яна ўзяла ўдзел у публічнай акцыі пратэсту супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію.

Іх было восем чалавек. 25 жніўня яны выйшлі на Красную плошчу ў Маскве. Гарбанеўская з сабой узяла яшчэ і немаўля. Селі на Лобным месцы. Разгарнулі плакаты. На адным з іх быў надпіс — «За вашу і нашу свабоду!» — як у паўстанцаў 1863 года.

Акцыя доўжылася ўсяго некалькі хвілін. Падбеглі кагэбісты ў цывільным. Парвалі плакаты, кагосьці збілі і забралі з сабой. Толькі Гарбанеўская заставалася на плошчы — чэкісты шукалі машыну, у якую яна магла б змясціцца з каляскай з немаўлём...

Яе дапыталі. На кватэры правяліператрус... і адпусцілі. Гэта ў той час, як астатніх удзельнікаў адразу арыштавалі. «У мяне было трохмесячнае дзіця. І яны доўга вагаліся, што са мной рабіць. А пасля пакінулі да таго часу, як дзіця падрасце, а пра мяне забудуць на Захадзе».

А ўвесь гэты час Наталля Яўгенаўна пісала кнігу «Поўдзень. Справа пра дэманстрацыю 25 жніўня 1968 года на Краснай плошчы»: «Арыгінал разам з сямю перадрукаванымі копіямі ляжалі пад ложкам. Мы жылі ўчатырох у адным пакоі (я рукапіс яшчэ і ад маці хавала). Маглі б прыйсці зператрусам. Але ў той момант не прыйшлі. Гэта маё шанцаванне. Прыйшлі б — праца ўся змарнавалася б».

Шанцавала і падчасператрусаў. 24 снежня 1969 года, у дзень арышту, у яе не знайшлі матэрыялы пра галадоўку ў адным з лагераў, перададзеныя ад палітвязняў. Паперы ляжалі ў кішэні зімовага паліто. А разам з тым у стале ляжалі матэрыялы да самвыдатаўскага часопіса «Хроника текущих событий», які яна рэдагавала. Спадарыня Наталля згадвае гэта з усмешкай і адзначае, што «ў нас было шмат вясёлых гісторый. Не трэба ўяўляць наша жыццё як выключнае і ў кожны момант трагічнае».

У 1970-м Гарбанеўскай паставілі дыягназ «вялацякучая шызафрэнія» і накіравалі ў Казанскую псіхіятрычную бальніцу турэмнага тыпу. «Гэта вопыт, у якім няма нічога станоўчага», — кажа яна.

«Вечная койка» — так называлі вязні вар'ятню. Калі ў турме ёсць рэальны тэрмін зняволення, дык у вар'ятні чалавека «лечаць» столькі, колькі палічаць патрэбным. Гарбанеўскую выпусцілі ў лютым 1972 года. Да яе не выкарыстоўвалі электрашокеры, бо на волі паднялася хваля ў яе абарону. Але галаперыдол давалі рэгулярна.

У даведцы аб вызваленні Гарбанеўскай напісана, што яна адпушчаная 11.01.1971. Гэта дата, калі яе этапавалі з Бутыркі ў Казанскую псіхіятрычную бальніцу. Дзе «свабодную» лячылі яшчэ год.

### Наталля Гарбанеўская

Нар. у 1936 у Маскве. Паэтка, перакладчыца. Заснавальніца і першы рэдактар самвыдатаўскай «Хроники текущих событий». Удзельніца дэманстрацыі супраць уводу савецкіх войск у Чэхаславакію. Была арыштаваная, знаходзілася на прымусовым лячэнні ў вар'ятні. Ад 1976 жыве ў Францыі. Аўтарка дзясятка зборнікаў вершаў. Вядзе блог ng68.livejournal.com. Амерыканская спявачка Джоан Баэз прысвяціла ёй песню Natalia.



Гарбанеўская пасля вызвалення з псіхіятрычнай турмы.

## «Францыю я не выбірала»

На свабоду Наталля Яўгенаўна выйшла ў лютым 1972-га. Па вызваленні рэдагавала «Хронику», пра што ведаў толькі адзін чалавек.

«У 1974 годзе я падпісала нешта наконт высылкі Салжаніцына, затым — ліст у абарону Леаніда Плюшча, які знаходзіўся ў псіхіятрычнай турме. І зразумела: яшчэ 1—2 крокі — і мяне зноў пасадзяць у псіхіятрычную турму. Мне пагражала паўтарэнне жудаснага вопыту».

Гарбанеўская вырашыла з'ехаць з краіны. Чаму абрала менавіта Францыю? «Мы выязджалі не «куды», а «адкуль». З ізраільскай візай даехалі да Вены, якая была транзітным горадам. Там мяне запрасілі ў Францыю. І гэта было цудоўна». Гарбанеўская адразу пачала працаваць у парыжскім часопісе «Континент» (у якім друкаваліся і беларускія эмігранты, у прыватнасці, Кастусь Акула), пазаштатна на радыё «Свабода», пазней — у газеце «Русская мысль».

У 1992 годзе жанчына наведала Расію. А пры чарговай спробе выехаць у 1997 годзе французы адмовіліся выпускаць яе на радзіму, бо Гарбанеўская мела бежанскі пашпарт, у якім стаяла пазнака: дзейсны ва ўсе краіны, акрамя СССР. Пачалася бюракратычная валакіта, вынікам якой стала тое, што Гарбанеўская змяніла грамадзянства на польскае. Чаму не расійскае?

«Калі выйшаў першы, самы ліберальны, расійскі закон аб грамадзянстве, у ім гаварылася, што асобы, якія страцілі грамадзянства, а пасля былі рэабілітаваныя, могуць атрымаць яго без перашкод. Але я асоба не рэабілітаваная. А каб быць рэабілітаванай, аб гэтым трэба прасіць. Я не прасіла мяне судзіць, дык навошта я буду прасіць аб рэабілітацыі».

## «Я і на плошчу не выйшла б, каб не Ахматава»

У 1962 годзе яна пазнаёмілася з Ахматавай, якая высока ацаніла вершы маладзейшай паэткі. Пры ўзгадванні Ганны Андрэеўны ў голасе Гарбанеўскай адчуваецца нотка захаплення.

«Сустрэча з Ахматавай — гэта найважнейшы паварот у жыцці. Я часта думаю, што мо і на плошчу не выйшла б, каб не Ахматава... Я цягам трох з лішкам гадоў з ёй кантактавала і магла вучыцца ў яе не як вершы пісаць, а як быць паэтам, як да сябе ставіцца... Я думаю, яна ведала, што яна вялікі паэт. Але яна магла ставіцца да сябе так іранічна».

Тройчы на год Наталля Яўгенаўна стараецца наведваць Расію. Там у яе выходзяць кнігі. Апошнія гады — з зайздроснай рэгулярнасцю. Яна сваім прыкладам разбурае міф, што ў выгнанні паэтам пісаць цяжка.

«Я лічу, што выгнанне абвастрае мову паэта. Празаіка — не. Памятаю, неяк па тэлефоне сказала Бродскаму: «Ты ведаеш, што да эміграцыі я надта любіла твае вершы. Але не ўсе. А цяпер проста кожны люблю». Я баялася гаварыць кампліменты Бродскаму. А ён па-дзіцячаму «Праўда!?» Паэтам выгнанне не шкодзіць, а бывае нават і карысным...»

Наталля Гарбанеўская куды з большай ахвотай гатовая гаварыць пра літаратуру, чым пра перажытае ў савецкай краіне.

**Сяргей Макарэвіч**

### Гарбачоўскае вызваленне палітвязняў

У лютым 1986 генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Гарбачоў у інтэрв'ю французскай камуністычнай газеце «Юманітэ» паўтарыў тэзіс савецкай прапаганды пра тое, што ў СССР няма палітвязняў: «За перакананні ў нас не судзяць. Але любая дзяржава мусіць бараніць сябе ад тых, хто пасягае на яе, заклікае да яе падрыву ці знішчэння, хто, урэшце, шпіёніць на карысць замежных выведак. У СССР за ўсе віды такога роду злачынстваў адбываюць пакаранне трохі болей за дзвесце чалавек».

У адказ акадэмік Андрэй Сахараў, які знаходзіўся тады ў высылцы ў Горкім (цяпер Ніжні Ноўгарад), скіраваў Гарбачову адкрыты ліст. Ён звярнуў увагу на пэўныя артыкулы Крымінальнага кодэкса — 190-ы, які прадугледжваў адказнасць за нагавор на савецкі грамадскі і палітычны лад; 70-ы — агітацыя ці прапаганда з мэтай падрыву савецкай улады. Наяўнасць гэтых артыкулаў, адзначаў Сахараў, дазваляе пераследаваць людзей за палітычныя перакананні. А артыкул 142, які прадугледжваў адказнасць за парушэнне законаў пра аддзяленне царквы ад дзяржавы, даваў магчымасць для пераследу вернікаў.

У лісце Сахарава пералічваліся і канкрэтныя выпадкі пераследу за перакананні. Гарбачоў загадаў пракуратуры разабрацца па кожным з іх. Цягам 1986-га быў вызвалены 21 палітвязень. У пакойчыку Сахарава ў Горкім спецыяльна ўсталявалі тэлефон, каб Гарбачоў мог пазваніць і паведаміць, што акадэмік можа вярнуцца ў Маскву. У студзені 1987 адбылося масавае вызваленне палітзняволеных з турмаў. Каб выйсці з турмы, трэ было пісаць прашэнне аб памілаванні. Тых, хто адмаўляўся пісаць, вызвалялі пазней. Самыя прынцыповыя палітвязні выйшлі на свабоду ў 1991-м, з развалам СССР.

### Галаперыдол

Адзін з асноўных прэпаратаў савецкай «карнай псіхіятрыі». З пачаткам прыёму выклікае моцныя болі. Пасля — дэпрэсію і апатыю. Чалавек робіцца абыякавым і безыніцыятыўным на доўгі час.

# «Гальшанскі замак-2011»

У мястэчку Гальшаны (Ашмянскі раён) пройдзе трэці фэст «Гальшанскі замак-2011». У рамках фэсту адбудзецца музычна-паэтычны спектакль «Калейдаскоп стагоддзяў» на вершы Уладзіміра Караткевіча. У праграме мерапрыемства будуць традыцыйныя турніры рыцараў і лучнікаў, паказ сярэднявечнага побыту, планууецца рэтра-парк «Гісторыя транспарту ў Беларусі». Сярод гасцей фестывалю: тэатры «Дэ-грыза» і «Гістрыён», гурты «Тэстамент», «Стары Ольса», DJ Бальцэвіч з дудой і рок-гурты «Унія» ды «ЛітвінТроль». Фестываль будзе дабрачынным, а ўсе сабраныя сродкі пойдуць на рэстаўрацыю замка.



PHOTO BYMEDIA.NET

## ФУТБОЛ

### 27 тур

**На выходных пройдуць матчы 28-га тура Чэмпіянату Беларусі па футболе. 1 кастрычніка:** «Мінск» — «Тарпеда-БЕЛАЗ», БАТЭ — «Гомель», «Віцебск» — «Белшына», «Нёман» — «Нафтан», «Дняпро» — «Шахцёр», «Дынама» (Брэст) — «Дынама» (Мінск).

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Амур»

**У рамках Кантынентальнай хакейнай лігі 4 кастрычніка** пройдзе гульня «Дынама» (Мінск) — «Амур» (Хабараўск). **Пачатак а 19-й.**

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль Юрыя Башмета

**1 кастрычніка**, у Міжнародны дзень музыкі, адкрываецца фестываль Юрыя Башмета. Акдрыццё будзе адбывацца ў форме музычна-цыркавога шоу. **Пачатак а 19-й. 2 кастрычніка** ў Белдзяржфілармоніі — канцэрт фартэпіяннай музыкі. **Пачатак а 19-й. 3 кастрычніка** тамсама — «Парад зорак». **Пачатак а 19-й. 4 кастрычніка** тамсама — выступ камернага ансамбля «Салісты Масквы». **Пачатак а 19-й.**

### Мамант

**1 і 2 кастрычніка ў Нацыянальнай школе прыгажосці (вул. Мельнікайтэ, 4)** адбудзецца фестываль сучаснага мастацтва і авангарднай моды «Мамант». Падчас фестывалю пройдуць конкурсныя паказы авангарднай моды, відэа-і бодзі-арта, а таксама гала-паказ лепшых калекцыяў.

## КАНЦЭРТЫ

### Стары Ольса

**7 кастрычніка у Палацы культуры ветэранаў (Я.Купалы, 21)** — канцэрт гурта сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса». **Пачатак а 19-й.**

### МузыкаСловы

**1 кастрычніка ў музеі Янкі Купалы (вул. Я. Купалы, 4)** — «МузыкаСловы». «МузыкаСловы» маюць на мэце прадэманстраваць найноўшыя паэтычныя і музычныя практыкі, а таксама ўзаемаўплывы розных відаў мастацтва. Напрыклад, паэзія пашырае свае магчымасці дзякуючы адмысловаму артыстычнаму выкананню аўтара (з элементамі перформансу, слэму). Музыка ўзбагачаецца новымі разнастайнымі кірункамі і спосабамі гукаатрымання. **Пачатак а 18-й.**

### Музычныя масты Эўропы

**5 кастрычніка ў Малой зале імя Р.Шырмы** пройдзе канцэртная праграма «Музычныя Масты Еўропы». **Пачатак а 19-й.**



### Тройца

**16 кастрычніка ў Брэсцкай абласной філармоніі** — этна-трыа «Тройца» з прэзентацыяй новага альбома «Зімачка». **Пачатак а 16-й.**

### Джаз-квартэт Андрэя Барылы

**28 верасня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Jazz:квартэт Андрэя Барыды Barilazz.

### Да 200-годдзя Ферэнца Ліста

**29 верасня а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — канцэрт фартэпіяннай музыкі да 200-годдзя Ферэнца Ліста.

### Talco

**29 верасня а 18-й у клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт італьянскага гурта Talco (фолк-/ска-панк).

### Noize MC

**30 верасня ў клубе RE:Public (Прытыцкага, 62)** выступае Noize MC — адзін з найлепшых расійскіх фрыстайлераў, безумоўная велічыня расійскага хіп-хопа. **Пачатак а 19-й.**



## КІРМАШ

### Дажынкі-2011

Рэспубліканскі фестываль-кірмаш «Дажынкі-2011» пройдзе 30 верасня ў Маладзечна (Мінская вобласць). Дабрацца да Маладзечна можна на электрычках.

## ВЫСТАВЫ

### Сучаснае кітайскае мастацтва валакна

**З 28 верасня да 2 кастрычніка ў Гістарычным музеі** праццуе выстава «Сучаснае кітайскае мастацтва валакна». Радзіма сучаснага мастацтва валакна — швейцарская Лазана. З 1962 па 1995 год свет убачыў 15 Лазанскіх біенале. У 1996 годзе біенале ў Лазане было закрыта. У кастрычніку 2000 года першае міжнароднае біенале мастацтва валакна «З Лазаны ў Пекін» адкрылася ў Пекіне.

### Муміі Егіпта

**У Гістарычным музеі да 2 кастрычніка** працягвае працаваць выстава «Вялікія муміі Егіпта». Выстава пазнаёміць вас з помнікамі гісторыка-культурнай спадчыны Старажытнага Егіпта, а таксама з уяўленнямі егіпцянаў аб замагільным свеце і муміфікацыі.

### Чурлёніс

**У Мастацкім музеі да 30 верасня працуе выстава**, прысвечаная 100-годдзю з дня смерці Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса. Творчасць Чурлёніса — сінтэз мастацтва і роздумаў на філасофскія, псіхалагічныя і рэлігійныя тэмы. У яго творах зміяшаныя сімвалізм, рамантызм, сецэсія, ёсць рысы і абстракцыянізму.

### Jetty

**Да 3 кастрычніка ў галерэі TUT.BY (Харужай, 1а, 6 паверх)** працуе фотавыстава Марыны Бацюковай Jetty, на каторай можна ўбачыць фотаздымкі аўтара аб вялікім рыбацкім пасяленні на вадзе Chew Jetty альбо Clan Jetties на востраве Пенанг у Малайзіі, заснаваным эмігрантамі з Кітая ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

## ТЭАТРЫ

### 28 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 29 верасня

**Лялек** — «Вянчанне»
**Оперы і балета** — «Рыгалета»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 30 верасня

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 1 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

### 2 кастрычніка

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Оперы і балета** — «Тры парсючкі»
**Оперы і балета** — «Марная перасцярога»
**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»

### 4 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Марная перасцярога»

### 5 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Пан міністар»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Лялек** — «Драй швестэрн»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 6 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Кармэн-сюіта. Дывертысмент з балета «Шчаўкунок»
**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»

### 7 кастрычніка

**Лялек** — «Вянчанне»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 8 кастрычніка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Лялькі і актора «Карабас»** — «Прыгоды тыграняці Р-Р-Р»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Оперы і балета** — «Спартак»
**Беларускай драматургіі** — «Неба ў дыяментах»

### 9 кастрычніка

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Чароўная Музыка»
**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

## КІНО

### Скура доктара Бандэраса

**Скура, у якой я жыву (La piel que habito)**
Іспанія, 2011, каляровы, 117 хв.
**Рэжысёр:** Педра Альмадовар
**Ролі выконваюць:** Антоніа Бандэрас, Элена Анайя, Бланка Суарэс, Жан Корнэт, Марыса Парэдэс.
**Жанр:** Драма паводле рамана «Тарантула» Цьеры Жонке
**Адзнака:** 5 (з 10)
Геніяльны пластычны хірург (Антоніа Бандэрас) вырошчвае новую чалавечую скуру. Доктар згубіў жонку, а яшчэ прагне адпомсціць нягодніку, які зґвалтаваў яго дачку. Прыгажуня Вера — ключавая фігура страшнае помсты.
Апошняя стужка слыннага іспанскага рэжысёра — хірургічны трылер з палкімі любоўнымі жарсцямі, неверагоднымі сямейнымі загадкамі і тыпова альмадоўараўскімі сканадальнымі падставамі.

**Андрэй Расінскі**



# Камп'ютар навучыўся размаўляць па-беларуску

Цяпер кожны беларус можа **адаптаваць праграму** да свайго голасу.

Тэхналогіі распазванання тэкставай інфармацыі і перакладу яе ў маўленне распрацаваныя шмат для якіх моваў свету. Цяпер і беларуская не выключэнне.

У нашай краіне распрацоўкай такой праграмы займаюцца ў Аб'яднаным інстытуце праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук, а таксама ў прыватнай кампаніі «Сакрамент».

Пра сваю распрацоўку расказала кандыдат тэхнічных навук Лілія Цырульнік і малодшы навуковы супрацоўнік Юрась Гецэвіч, які непасрэдна займаецца беларускамоўным сегментам.

**«Наша Ніва»: У чым адметнасць вашай лабараторыі?**

**Лілія Цырульнік**: Наша асаблівасць — гэта распрацоўка сістэмы сінтэзу маўлення для беларускай мовы. Акрамя гэтага, мы распрацавалі такія сістэмы для расейскай і польскай моваў, а таксама займаемся стварэннем сінтэзатара якуцкай мовы.

**«НН»: Дзе можа выкарыстоўвацца ваша праграма?**

**ЛЦ**: Сфера прымянення даволі шырокая: стварэнне аўдыёкніг, чытанне электроннай пошты, дапамога сляпым людзям. Што яшчэ важна, сістэма сінтэзу беларускага маўлення будзе спрыяць захаванню мовы.

**«НН»: Колькі каштуе такая праграма?**

**ЛЦ**: Пакуль няма камерцыйнай версіі праграмы для беларускай мовы, яна будзе створана цягам некалькіх месяцаў. Для канчатковага карыстальніка гэта будзе адзін кошт, для карпаратыўнага ўжытку ці для выкарыстоўвання ў сістэмах апавяшчэння абанентаў па тэлефоне — іншы. Напрыклад, створаная намі праграма для агучвання аўдыёкніг на расейскай мове «aBookForge» каштуе каля $7. На гэту лічбу можна арыентавацца.

**«НН»: Як даўно вы займаецеся распрацоўкамі сінтэзатараў маўлення?**

**ЛЦ**: Лабараторыя існуе ўжо больш за 40 гадоў. Былы загадчык лабараторыі — Барыс Мяфодзевіч Лабанаў — вядомы вучоны, на рахунку якога шмат навуковых распрацовак. Дарэчы, яго голасам «размаўляе» праграма. А беларускамоўным сінтэзатарам пачалі займацца гадоў 10 таму.

**«НН»: Ці звяртаецеся вы да паслуг філолагаў?**

**ЛЦ**: Вядома ж. Трэба ўлічваць асаблівасці і гукаў, і інтанацыі. Напрыклад, у польскай мове націск трапляе пераважна на перадапошні склад. Мовы пастаянна развіваюцца, з'яўляюцца новыя словы. А вось колькасць гукаў — абмежаваная. У беларускай мове ёсць 42 гукі. Такім чынам, з існуючай базы гукаў праграма ўтварае словы, сказы, тэксты... Акрамя таго, адзін і той жа гук можа быць вымаўлены з рознай інтанацыяй і тэмпам.



Людзі, якія навучылі камп'ютар беларускім словам. Крайняя справа — Лілія Цырульнік, другі злева — Юрась Гецэвіч.

**«НН»: Ці можа праграмма «размаўляць» голасам іншага чалавека па жаданні заказчыка?**

**ЛЦ**: Што тычыцца персанальнага голасу, у нас распрацавана тэхналогія, дзякуючы якой любы дыктар можа прачытаць пэўны тэкст, зрабіць яго аўдыёзапіс. Потым гэты запіс апрацоўваецца спецыяльным чынам і ствараецца маўленчая база дадзеных. Таму тэарэтычна праграма можа размаўляць любым голасам.

**«НН»: З якімі цяжкасцямі вы сутыкаліся пры распрацоўцы беларускай версіі?**

**Юрась Гецэвіч**: Найбольшую складанасць выклікаюць розныя скарачэнні, абрэвіятуры, даты, а таксама пастаноўка націскаў у словах. Да таго ж, людзі часта робяць памылкі пры напісанні тэкстаў. Таму мая задача — рабіць лінгвістычны блок, які б мог распазнаваць «закадаваныя» выразы ў тэксце, затым пераводзіць іх у арфаграфічныя словы, знаходзіць гэтыя словы ў слоўніку і расстаўляць націскі. Напачатку слоўніка не было. Нам яго перадалі з Лабараторыі камп'ютарнай лінгвістыкі БДУ. Зразумела, што прыйшлося яго адаптаваць, дадаваць новыя словы, імёны.

Каб лепш зразумець, як працуе праграма, Юрась Гецэвіч надрукаваў некалькі словаў на клавіятуры — і камп'ютар прамовіў прыемным мужчынскім голасам з лёгкім металічным акцэнтам: «Прывітанне, газета «Наша Ніва»! Вы першая беларуская газета з малюнкамі. А мы першая лабараторыя, якая сінтэзуе беларускую мову».

**Аксана Рудовіч**

Экалогія

# Зваротная шкляная тара будзе па-за законам

Грынпіс катэгарычна супраць, бо гэта **ўдарыць па экалогіі**.

З 1 ліпеня 2012 будзе забаронена выкарыстоўваць зваротныя шкляныя бутэлькі для алкагольных напояў і дзіцячага харчавання. Фактычна, бутэлькі з-пад піва стануць аднаразовымі.

Такую норму прадугледжвае зацверджаны 16 жніўня 2011 тэхнічны рэгламент Мытнага саюза Расіі, Беларусі і Казахстана. У выніку збор і паўторнае выкарыстанне практычна ўсіх відаў шкляной тары будзе забаронены.

Эколагі супраць такога рашэння. Яны тлумачаць, што большасць пунктаў



прыёму шклатары закрыюцца праз адсутнасць здаваемых бутэлек. А вытворцы будуць забруджваць навакольнае асяроддзе, выпускачы новую і новую тару.

«Для вытворчасці 1 тоны бутэлек расходуецца каля 1,2 тоны прыроднай сыравіны (у тым ліку 0,59 тоны кварцавага пяску, 0,172 тоны вапняку, 0,186 тоны соды і 0,072 тоны палявога шпату), а таксама каля 4 Мвт/г электраэнергіі. Энергіі, якая марнуецца на стварэнне ўсяго адной бутэлькі, хопіць на 7-гадзінную працу камп'ютара і на суткі працы энергаашчаджальнай лямпы», — тлумачаць эколагі.

Пераплаўленне бутэлек на гутах у новыя (адзіны легальны спосаб утылізацыі шклатары, які застанецца) дазволіць зменшыць выдаткоўванне матэрыялаў, але энергіі пры гэтым будзе трацішча толькі на 20% менш, чым пры першаснай вытворчасці. У той жа час ачыстка адной бутэлькі да стану, які адказвае ўсім санітарным нормам, патрабуе ў 10 разоў менш энергіі, чым вытворчасць новай.

**Greenpeace.org**



Каханне

# Хто цалуецца найлепш?

Прыемны **салодкі пацалунак** атрымаць не так ужо і лёгка.

Пацалунак — гэта цэлае мастацтва, якое залежыць ад многіх фактараў. Напрыклад, ад нацыянальнасці партнёра. Так, па выніках даследавання, праведзенага асацыяцыяй «Жанчына і якасць жыцця», найлепшымі майстрамі ў мастацтве пацалунку сталі італьянцы.

Рэспандэнткі павінны былі адказаць на пытанні аб пацалунках з прадстаўнікамі розных краін і ацаніць якасць такіх кантактаў па некалькіх параметрах: гарачыня, здольнасць суцешыць у цяжкую хвіліну, працягласць пацалунку, захаванне гігіены рота, уменне знаходзіць патрэбныя словы.

Паводле ўсіх гэтых параметраў італьянцы сталі лідарамі апытання (гарачыня пацалунку — 52%; здольнасць стаць падтрымкай — 31%; працягласць — 16%; гігіена — 27%; уменне спакушаць — 7%. Іх майстэрства пацалунку высока ацанілі 28% удзельніц даследавання. За італьянцамі ў рэйтынгу размясціліся французы, якія набралі 17%, а трэцімі сталі іспанцы з 13%.

На чацвёртым месцы апынуліся грэкі, затым ідуць хлопцы з сонечнай Бразіліі, затым — Галандыі. Ураўнаважаныя шведы — на сёмым, англічане — на восьмым. Апошнімі ў дзясятцы — прадстаўнікі Германіі і Даніі, якія, на думку апытаных дзяўчат, занадта халодныя і сумныя, не адрозніваюць пяшчотай.

**Delfi.lt**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ад пачатку года фотакарэспандэнт «Нашай Нівы» Сяргей Гудзілін фатаграфуе людзей, якія на скуры захоўваюць нацыянальныя сімвалы. Калі ў вас ёсць знаёмы з такімі тату, пішыце на адрас рэдакцыі.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**На свяце машына-будаўнікоў у Жодзіне беларускі асілак Вячаслаў Астапенкаў скрануў з месца 30-тонны БелАЗ.**



**Саша Ханін — першы ў Беларусі мадэль-андрагін і першы хлопец, што ступіў на беларускі подыум высокім абцасам. Андрагін — гэта чалавек, які аб'ядноўвае абодва полы. У іх шаўковая скура, доўгія валасы, яны дэманструюць жаночае адзенне разам з іншымі мадэлямі, таму, трапіўшы пультам на Fashion TV, не адразу разгледзіш у прывабным тварыку ледзь заўважныя мужчынскія рысы.**



**Напярэдадні «Дажынак-2011» на ўсёй працягласці трасы Мінск—Маладзечна ўзнікаюць адна за адной статуі з саломы. Такую традыцыю беларусы пераймалі з еўрапейскіх краін.**

## Анекдоты

* * *

Прыходзіць супрацоўнік дзяржаўнага тэлеканала ў бардэль. Выбраў сабе дзяўчыну, яна яму спадабалася вельмі. Праз некаторы час ён кажа: «Хадзі да мяне на тэлебачанне працаваць». Яна з жахам: «Ты што! Мяне мама ледзь сюды пагадзілася адпусціць».

* * *

Палітычная барацьба па-беларуску — гэта калі адзін мае звязаныя рукі, а другі б'е яго доўбняй у лоб і патрабуе не ўмешвацца тых, хто спрабуе бараніць.

* * *

Нізкі попыт на даляры абумоўлены тым, што сур'ёзным беларускім бізнэсоўцам западло купляць танней, чым за 10 тысяч.

* * *

Даляр упаў у адносінах да рубля. З гэтага дня нямногія амерыканскія сем'і змогуць дазволіць сабе адпачынак у беларускіх санаторыях.

* * *

На з'ездзе «Адзінай Расіі» аб'явілі, што зараз Пуціным ізноў стане Пуцін.

* * *

«90% тэлефонных размоваў — пустая балбатня», — паведамляе сацыялагічная служба КДБ.

* * *

У Адэсе:
— Прабачце, вы не падкажаце, як будзе па-ўкраінску сінхрафазатрон?
— Шо?
— Авох, якая лаканічная мова!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нясвіж.** Тут цяпер пры новым галаве Грабоўскім пачаліся лепшыя парадкі: ён завёў асвятленне на вуліцах, загадаў палажыць тратуары, бо ўперад па каменнях і гразі прайсці нельга было. Дзякуючы яго стараням былая прагімназія з кожным годам будзе павышацца на адзін клас ажно да васьмі, і гэтак будзе ў нас поўная гімназія з правамі. Жывы і энергічны чалавек можа шмат рабіць па нашых гарадах і мястэчках, толькі бяда, што гэткіх людзей мала.

**«НН». №37—38, 1911.**

**Пачалося актыўнае пашырэнне Мінскай кальцавой дарогі ў раёне Курапатаў.** Гарадскія ўлады вырашылі, што пашырацца яна мусіць не ў бок горада, а менавіта ў бок масавых пахаванняў. Бульдозеры ўжо «расчысцілі» ад магілаў паласу ў 15 метраў. Праца кіпіць нават у суботу і нядзелю. Працуюць галоўным чынам магілёўскія і бабруйскія рабочыя, шмат хто нават не падазрае, што тут магільнік.

**«НН». №39. 2001.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7600. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 27.09.2011.
Замова № 4644.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 11036